

"Каб усе былі адно" (Ян, 17, 21)

# Царква

№ 1 (12), 1997 ВЯЛІКІ ПОСТ

## Малітва Ахрэма Сірына

*Госпадзе і Ўладару жыцьця майго, духа ленасьці, нуды, уладалюбства і марнаслоўя ня дай мне.*

*Духа чысьціні, пакоры, цярплівасьці і любові дай мне, слузе Твайму.*

*Так, Госпадзе Ўладару! Дай мне бачыць мае правіны і не асуджаць брата майго, бо Ты блаславёны на вякі вякоў.*

*Амін.*



**Крыжу Твайму пакланяемся, Уладару, і Сьвятое Уваскрасеньне Тваё славім!**

# Слова Апостальскага візітатара ad nutum Sanctae Sedis для грэка-каталікаў у Беларусі на Нядзелю Крыжапаклонную 1997 году

*Вялебныя Айцы: сьвятары і дыяканы,*
*дарагія манахі, манашкі і семінарысты, любыя ў Госпадзе браты і сёстры!*

1. *"Ісус Хрыстос учора і сёньня і навекі Той самы" (Габ 13, 8).*

Гэты біблейскі тэкст паказвае на Хрыста, як на Госпада гісторыі ўсяго чалавецтва і сусьвету.

Гэтую ісьціну Сьвятая Царква прыпамінае нам у бягучым годзе ў рамках падрыхтоўкі ўсіх хрысьціянаў да Вялікага Юбілею 2000 году. Сапраўды ў гэтым годзе мы мусім засяродзіцца на Ісусе Хрысьце і мусім асэнсаваць у нашым жыцьці вялікі дар збаўленьня, які Ён нам прыносіць. Асабліва адпаведным часам для духоўнага асэнсаваньня збаўчага подзьвігу Ісуса Хрыста ёсьць натуралёва Вялікі Пост.

Вялікі Пост — гэта шлях да Пасхі Ісуса Хрыста — нашага Збаўцы і Госпада, гэта наш уваход у таямніцу Пасхі. Вялікі Пост ня ёсьць толькі якойсьці зьнешняй падрыхтоўкай, але ёсьць часам асаблівай Божай дзейнасьці, у якім Хрыстос праз Сьвятога Духа аднаўляе ў нас Божае падабенства.

У гэтым часе Царква паказвае на Крыж Ісуса Хрыста, а мы зьбліжаемся да крыжа з глыбокай пашанай і паклонам. Вызнаем, што ён знак нашай веры. На крыжы Ісус Хрыстос памёр дзеля нашага збаўленьня. Таму крыж ёсьць для хрысьціяніна знакам Божай любові і перамогі.

Ва ўсходняй традыцыі Крыж Ісуса Хрыста неразьдзельна злучаны са Сьвятым Духам. У Евангельлі сьвятога Яна чытаем, што Ісус Хрыстос, паміраючы на крыжы, "нахіліўшы галаву, аддаў дух" (Ян 19, 30). Усходняя традыцыя інтэрпрэтуе гэтыя словы як "перададаньне" Сьвятога Духа Царкве, якую пад Крыжам прадстаўлялі Найсьвятая Багародзіца, апостал Ян і пабожныя жанчыны.

Таму Крыж Хрыста не магчыма зразумець без Сьвятога Духа. Мы, як хрысьціяне, глядзім на Крыж нашага Збаўцы вачыма веры, крыніца якой Уваскрасеньне Хрыстовае і якую стала ажыўляе Сьвяты Дух.

У трэцюю нядзелю Вялікага Посту — Нядзелю Крыжапаклонную, пакланяемся Хрыстоваму Крыжу — "дрэву жыцьця", як гэта паказвае мазаіка ў апсідзе рымскай базілікі сьвятога Клімента, аб чым і прыпамінае нам сёлеташні Каляндар газеты "Царква".

У сярэдзіне Вялікага Посту, гледзячы на Крыж Хрыста — "дрэва жыцьця", хочам маліцца разам з Папам Янам Паўлам II словамі ягонае малітвы на час падрыхтоўкі да Вялікага Юбілею:

*Ісусе,*
*Ты пачатак і поўня*
*новага чалавека:*
*прыцягні да Сябе*
*нашыя сэрцы,*
*каб мы пакінулі*
*згубныя сьцежкі*
*і крочылі Тваімі сьлядамі*
*па дарозе,якая вядзе*
*да жыцьця.*
*Зрабі, каб мы былі*
*вернымі хросным*
*абяцаньням,*
*жылі згодна з нашай*
*вераю,*
*рупліва давалі*
*сьведчаньне*
*Твайму слову так,*
*каб у сям'і і грамадзтве*
*зазьзяла жывое сьвятло*
*Твайго Евангельля.*
*Табе, о Хрысьце,*
*пашана і слава*
*цяпер і на вякі вякоў.*



2. Браты і сёстры! Праз свой Крыж Ісус Хрыстос прымірыў чалавецтва з Богам. Вялікі Пост — гэта асаблівы час нашага прымірэньня з Богам і з нашымі братамі. Тэма прымірэньня асабліва актуальная ў гэтым — 1997 годзе. Сьвяты Айцец нагадваў нам аб гэтым у сваім навучаньні ў пачатку году:

"Як хрысьціяне мы пакліканыя праз Евангельле чыніць мір і абвяшчаць прымірэньне, якое Хрыстос прынёс кожнаму чалавеку і ўсім людзям (пар. 2 Кар 5, 14, 18). [...] Калі мы хочам быць вернымі Ісусу Хрысту, мы павінны шчыра намагацца, каб на золку Трэцяга Тысячагоддзя мы ўсе аказаліся больш блізкімі сабе наўзаем, а таксама больш блізкімі да Бога" (19.01.1997).

Прымірэньне — гэта таксама тэма II Еўрапейскай экуменічнай асамблеі, якая будзе праходзіць у аўстрыйскім горадзе Грац 23-29 чэрвеня

гэтага году. Прадстаўнікі хрысьціянскіх Цэркваў з усёй Еўропы — каталікі, праваслаўныя і пратэстанты — будуць разам разважаць над тэмаю: "Прымірэньне — дар Божы і крыніца новага жыцьця".

Да вялікіх намаганьняў дзеля прымірэньня, якія прадпрымаюць хрысьціянскія Цэрквы ўсёй Еўропы, хоча далучыцца таксама і нашая Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква. Мы хочам спрыяць усяму, што служыць прымірэньню ў сем'ях, сярод суседзяў і ў грамадзтве. Хочам таксама ў духу прымірэньня будаваць нашыя адносіны з хрысьціянамі іншых канфесіяў. Мы ня хочам папаўняць непрыязьні да тых, якія нас перасьледуюць і ачарняюць. Хочам паглыбляць нашу веру і вернасьць Паўсюднай Царкве.

Разам з дэлегатамі Еўрапейскай экуменічнай асамблеі хочам прасіць Бога:

*Усемагутны,*
*Вечны Божа,*
*Які зьбіраеш тое,*
*што раскідана*
*і ўсё прыводзіш да*
*еднасьці,*
*глянь з любоўю*
*на Царкву Сына Твайго.*
*Зьяднай у адзінстве веры*
*і зьвяжы ўзаемнай*
*любоўю*
*ўсіх людзей, якіх Ты*
*пасьвяціў адным*
*хростам.*
*Просім Цябе*
*праз Ісуса Хрыста*
*Сына Твайго,*
*а нашага Госпада і Бога,*
*Які з Табою,*
*у адзінстве*
*Духа Сьвятога,*
*жыве і валадарыць,*
*цяпер і заўсёды,*
*і на вякі вякоў.*
*Амін.*

3. Падчас Вялікага Тыдня ў гэтым годзе прыпадае сьвята Дабравешчаньня. Гэтае сьвята па-грэцку называецца Эвангелісмос, што значыць абвяшчэньне Евангельля.

На працягу стагоддзяў нашыя продкі знаходзілі радасьць у той праўдзе, што Спрадвечны Сын Божы стаўся чалавекам. Як вядома, Усходняя Каталіцкая Царква, зьяднаная з Рымам, прысутнічае ў Беларусі 400 год. Яна ёсьць сапраўды адной з гістарычных Цэркваў у Беларусі. Да гэтай Царквы праз стагоддзі належала большасьць жыхароў Беларусі.

У XIX і XX стагоддзях Уніяцкая Царква ў Беларусі прынесла вялікія ахвяры за еднасьць з Рымам і вернасьць Сьвятому Айцу. Цяпер, пасьля гадоў перасьледваньняў, Беларуская Грэка-Каталіцкая Уніяцкая Царква хоча зрабіць свой унёсак у духоўнае аднаўленьне народу і Краю.

Праўда аб Уцелаўленьні Ісуса Хрыста і сёньня зьяўляецца для нас крыніцай радасьці і надзеі. Мы разумеем, што абвяшчэньне гэтай праўды — гэта менавіта абвяшчэньне Евангельля Ісуса Хрыста, гэта Эвангелісмос, ці евангелізацыя. Ісус Хрыстос, наш Збаўца і Госпад, шукае нас і чакае ад нас усіх, каб мы разам удзельнічалі ў справе евангелізацыі, гэта значыць, каб мы разам будавалі Ягоную Царкву, Царкву жывую.

Сьвята Дабравешчаньня — гэта таксама ў нашай Царкве Дзень малітвы за нашу Бацькаўшчыну — Беларусь. Уцелаўленьне Ісуса Хрыста ёсьць крыніца годнасьці кожнага чалавека, а таксама крыніца годнасьці кожнага народу. Калі мы ў гэты дзень узгадваем у малітве Беларусь, молімся перадусім за захаваньне яе незалежнасьці і за яе духоўнае адраджэньне на падмурку Евангельля Ісуса Хрыста.

Молімся за сем'і нашага Краю, каб яны былі асяродкамі, дзе ўзрастаюць духоўныя вартасьці, асабліва годнасьць чалавека і глыбокі патрыятызм. Молімся за людзей старых і хворых, молімся за моладзь і дзяцей. Молімся таксама за ўсіх убогіх.

Няхай час Вялікага Посту будзе для нас усіх часам узаемнай малітвы і дапамогі адзін аднаму, часам хрысьціянскай салідарнасьці.

Браты і сёстры! Няхай Ісус Хрыстос, які ўчора, сёньня і навекі ёсьць Той самы, дарue ўсім вам багата ласкі і блаславенстваў.

+ архіеп. Сергей Гаек

*Ватыкан-Менск*
*Нядзеля*
*Крыжапаклонная,*
*2 сакавіка 1997 году*

# У час Вялікага Посту



Любы механізм для таго, каб працаваць якасна і эфектыўна, патрабуе рэгулярнага і своечасовага тэхагляду і рамонту, займацца якім павінен сьпецыяліст.

Чалавек — найдасканалейшы з механізмаў,— створаны па вобразу і падабенству Самой Дасканаласьці. З моманту грэхападзеньня ён эксплуатуецца некваліфікавана і бяздарна. Штодзённа чалавек падвяргае сябе страшэннай рызыцы самых розных, часам нават катастрафічных паломак, якія ёсьць сьледствам фанабэрыі. Таму арганізм чалавека мае патрэбу ў своеасаблівым "тэхаглядзе". На маю думку, найлепшым сьпецыялістам для гэтага зьяўляецца Царква.

Чалавек, як вядома, мае душу і цела, таму належыць правяраць іх стан як паасобку, так і ва ўзаемасувязі адзін з адным. Пры самым павярхоўным аглядзе бачна, што спрадвечныя суадносіны гэтых частак груба парушаныя. Найбольш намаганьняў чалавек скіроўвае на задавальненьне элементарных патрэбаў цела. Нашая неацэнная бесьсьмяротная існасьць цалкам заціснутая хціўым целам. Кожнаму непрыемны выгляд бруднага п'яніцы. Але ня менш агідны сьмярдзючы бруд нашай душы, які цялеснымі вачыма мы ніколі не пабачым.

Царкоўны пост — гэта час наводзеньня парадку ў сабе, вызваленьне душы ад граху і цялеснага прыгнёту. Пост — гэта сьвята душы, гэта раскрыцьцё духоўных вачэй сэрца. Для кагосьці ён — першае знаёмства з сапраўдным "Я", гэта значыць — з сабой у чыстым выглядзе.

Толькі душа вымытая, прыведзеная да стану дзіцячай чысьціні, пры сустрэчы з Богам зможа адчуць ня сорам і дыскамфорт, але радасьць. Каб дасягнуць гэтага, нам неабходна прайсьці праз пакаяньне з малітвай і разважаньнямі.

Цела ж таксама неабходна вымыць ня толькі звонку, але і ўнутры, бо характар харчаваньня непасрэдна ўплывае на нашыя пачуцьці, жаданьні і думкі, а гэта значыць — на нашу душу.

Сёньня існуе мноства розных навуковых распрацовак адносна ачысткі арганізму ад шлакаў, існуе безьліч рэкамендацыяў, як правільна харчавацца, не парушаць дыету. Але, на жаль, уся гэтая літаратура прымушае чалавека думаць выключна пра сваё цела, забываючы пра галоўнае — душу. Калі б чалавек не забываў пра гэта, яму б не даводзілася мудрыць, ламаючы галаву, як вылекаваць сваё хворае цела. Царква ж за шмат вякоў выпрацавала стройную і простую сістэму прафілактычных разгрузак і зьменаў характару харчаваньня на працягу года, якая карысна ня толькі для душы, але і для цела. Калі вы будзеце трымацца 1-2 дні на тыдзень на расьліннай ежы, хлебе і вадзе ды будзеце выконваць 4 шматдзённыя пасты на працягу года — працаздольнасьць вашаму арганізму забясьпечана. У вас ня будзе ні скрыпу ў суставах, ні боляў у сэрцы, ні прыкрай склератычнай забыўчывасьці да 70-80 гадоў, а можа, і больш.

Хаця б на час посту вы павінны цалкам зьмяніць свае адносіны да харчаваньня. Ежа — гэта харч, і толькі, крыніца энергіі. Людзям, якія вядуць актыўны вобраз жыцьця, займаюцца цяжкай фізічнай працай, неабходна каларыйнае харчаваньне з вялікім утрыманьнем бялку. У перыяд посту

*Працяг на стар.16*

## Экуменічныя захады хрысьціянскіх супольнасьцяў Эўропы

Асноўныя хрысьціянскія супольнасьці Эўропы маюць намер зьдзейсьніць у 2000 годзе вялікі экуменічны заход, які будзе прысьвечаны новаму тысячагоддзю хрысьціянскай эры. Пра гэта паведаміў генеральны сакратар Канферэнцыі Эўрапейскіх Цэркваў Жан Фішэр.

Паводле ягоных словаў, арганізатарамі экуменічнай сустрэчы стануць узначальваная ім арганізацыя і Каталіцкая Рада Эўрапейскіх канферэнцый біскупаў. Галоўнай тэмай гэтай сустрэчы стане пытаньне еднасьці Цэркваў.

Рашэньне пра правядзеньне гэтай важнай сустрэчы было прынята на пасяджэньні аб'яднанага камітэту Канферэнцыі Эўрапейскіх Цэркваў і Каталіцкай Рады Эўрапейскіх канферэнцый біскупаў, якое праходзіла 20-22 студзеня ў Рэксбэргу (Нямеччына). Цяпер гэтымі вялікімі эўрапейскімі хрысьціянскімі аб'яднаньнямі вядзецца падрыхтоўка іншай супольнай акцыі — Эўрапейскай Экуменічнай Асамблеі, якая будзе праходзіць у Грацы (Аўстрыя) улетку. Чакаецца, што гэтая хрысьціянская Асамблея зьбярэ каля 700 афіцыйных дэлегатаў ад эўрапейскіх Цэркваў.

Што да сустрэчы, якая прымеркавана да Юбілею 2000 году, на думку арганізатараў, у ёй будзе браць удзел значна меншая колькасьць эўрапейскіх хрысьціянаў — прыкладна 100 асобаў. Дарэчы, было прапанавана правесьці экуменічную сустрэчу і ў 2001 годзе, калі дата сьвяткаваньня Вялікодня паводле грыгарыянскага і юльянскага календароў будзе зьбягацца ў адзін дзень.

## Засох Мамврыйскі дуб

Згодна з паведамленьнямі з Палестыны, засох Мамврыйскі дуб — гэта ёсьць тое дрэва, пад якім, паводле біблейскай гісторыі, праайцец Абрагам прыняў трох анёлаў. Апошнім часам на старадаўнім дубе зелянела ўсяго толькі адна галінка, але ня так даўно засохла і яна.

## Маці Тэрэза вырашыла пакінуць пасаду настаяцелькі

Архібіскуп Калькуты Генры Д'Соуза паведаміў 13 студзеня, што Маці Тэрэза заявіла пра свой намер пакінуць пасаду настаяцелькі закону місіянерак міласэрнасьці. У заснаваным лаўрэаткай Нобелеўскай прэміі Маці Тэрэзай ордэне ніхто нават і думкі не дапускаў, што пры жыцьці яна пакіне гэтую пасаду. Царкоўныя крыніцы паведамляюць, што сёстры закону хочуць і надалей бачыць Маці Тэрэзу сваёй настаяцелькай, аднак яе самаадчуваньне і 86-гадовы ўзрост прымушаюць падумаць пра прызначэньне яе наступніцы. Стан Маці Тэрэзы можна назваць вельмі цяжкім. Паводле словаў духоўнага настаўніка ордэну айца езуіта Эдварда ле Жалі, Маці Тэрэза вельмі аслаблена і ня ў стане нават дайсьці да капліцы, якая месьціцца насупраць яе кельлі. Пра абраньне яе на новы тэрмін ня можа быць і мовы. Таму да канца лютага Ватыкан павінен прызначыць ёй наступніцу.

Цяпер у Калькуце праходзіць пасяджэньне ордэнскай капітулы, на якую зьехаліся 120 манахіняў закону місіянерак міласэрнасьці. Кульмінацыяй капітулы стане абраньне новай настаяцелькі і чатырох сябраў рады ордэну. Сярод магчымых прэтэндэнтак на пасаду настаяцелькі разглядаецца сем манахіняў: Фрэдэрыка Льюіс, Андрэа Бункэ, Прысьціла Льюіс, Агнэс Дас, Камэлія Пэрэйра, Дораці Фрэнсіс і Шанці Д'Соуза.

## Грэка-Каталіцкая Царква на Экуменічнай сустрэчы ў Грацы

У адпаведнасьці з рашэньнямі і пастановамі Сіноду біскупаў Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы, які адбыўся ў Львове 14-21 кастрычніка 1996 году, плануецца паслаць прадстаўнікоў Грэка-Каталіцкай Царквы на Экуменічную сустрэчу ў Грацы (Аўстрыя), якая пройдзе 23-29 чэрвеня 1997 году. У склад дэлегацыі Грэка-Каталіцкай Царквы на гэты форум мяркуецца ўключыць і двух дэлегатаў ад Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы. Ад УГКЦ будуць Уладыкі Гузар і Колтун (яны ўзначаляць дэлегацыю), а таксама адзін сьвятар, манах і міранін.

## Ерусалімскія археолагі знайшлі ўнікальны крыж

Падчас раскопак каля сьценаў Ерусаліму ізраільскія археолагі знайшлі крыж візантыйскай эпохі. Унікальнасьць гэтага невялікага бронзавага крыжа ў тым, што ў яго ўстаўлены два маленькія кавалачкі дрэва. Паколькі да гэтага часу археолагі ніколі не знаходзілі нічога падобнага, у прэсе была выказана дапушчэньне, што ў бронзавы крыж устаўлены часьцінкі Крыжа Гасподняга.

На прэс-канферэнцыі ў Ерусаліме вядомы ізраільскі археолаг Роні Рэйх заявіў, што асабіста ў яго ёсьць сумненьні адносна такой сьмелай версіі: у V-VI ст. Ерусалім наведвалі сотні тысячаў прашчанаў з усяго хрысьціянскага сьвету. Зразумела, шмат хто з іх хацеў прывезьці на сваю радзіму нейкі сувенір. Таму, знойдзены крыж, на думку Р.Рэйха, найбольш верагодна, якраз і зьяўляўся падобным сувенірам.

Археолагі пакуль яшчэ ня вырашылі, ці праводзіць экспертызу для ўстанаўленьня ўзросту часьцінак дрэва, што ўстаўлены ў крыж. Праблема ў тым, што часьцінкі дрэва настолькі малыя, што падчас экспертызы яны будуць цалкам зьнішчаныя. Але нават калі дасьледаваньне выявіць, што ўзрост дрэва сягае за два тысячагоддзі, гэта яшчэ ня будзе, тым ня менш, доказам таго, што археолагі знайшлі менавіта часьцінкі Крыжа Гасподняга.

Паводле царкоўнага паданьня, Крыж Гасподні знайшлі пад час раскопак, якія праводзіліся ў IV ст. па ініцыятыве царыцы Алены, і з таго часу ён зьберагаўся ў храме Гробу Гасподняга. У 614 г. персы, якія разрабавалі Ерусалім, забралі Крыж, але праз дзесяць гадоў візантыйскі імператар Іраклій падчас удалага вайсковага паходу здолеў вярнуць сьвятыню. Калі ж Сьвятая Зямля была заваяваная мусульманамі, сьляды вялікай сьвятыні хрысьціянскага сьвету згубіліся.

## Кнігі Бібліі на мовах народаў колішняга СССР

Асобныя кнігі Бібліі выйшлі ў сьвет на 35 мовах народаў колішняга СССР. На 10 мовах можна прачытаць поўны тэкст Новага Запавету, а яшчэ трыма мовамі — грузінскай, малдаўскай і таджыцкай — апублікаваны поўны тэкст Сьвятога Пісьма. Такім важкім зьяўляецца вынік шматгадовай працы Інстытуту перакладу Бібліі, які быў заснаваны ў Стакгольме ў 1973 годзе па ініцыятыве прафесара Барыса Араповіча як Усходні біблійны інстытут. Да таго часу з 127 моў народаў СССР Сьвятое Пісьмо цалкам было перакладзена толькі на дзевяць моў, а дзьве трэці народнасьцяў не мелі нават і адной часткі Бібліі ў сваёй роднай мове. За апошнія 15 гадоў намаганьнямі працаўнікоў Інстытуту было выдадзена больш за 70 выданьняў дзіцячай Бібліі на 17 мовах.

Сёньня ў Інстытуце перакладу Бібліі працуе каля 200 перакладчыкаў, багаслоўскіх і філалагічных рэдактараў ды кансультантаў. Усе яны рыхтуюць да друку ня толькі тэксты Сьвятога Пісьма, але і даведачную літаратуру — слоўнікі і карты біблейскай гісторыі.

# 90-гадовы юбілей шчырага прыяцеля беларускіх грэка-католікаў

12 лютага споўнілася 90 гадоў шматгадоваму вязьню сталінскіх лагероў, вядомаму ўкраінскаму царкоўнаму і дзяржаўнаму дзеячу архіфіскупу УГКЦ Валадыміру Стэрнюку.

З гэтай нагоды ў львоўскім саборы сьв. Юра адбылася архірэйская літургія з удзелам самога ўладыкі Валадыміра. А ўвечары ў памяшканьні Акадэмічнага Ўкраінскага драмтэатру імя М.Занькавецкай адбылася сьвяточная акадэмія з удзелам заслужанай капэлы Ўкраіны "Трэмбіта" і артыстаў тэатру.

Урачыстую вечарыну распачаў біскуп-памочнік главы УГКЦ уладыка Любамір Гузар. Са словамі віншаваньня выступілі кіраўнікі Львоўскай абласной і гарадзкой радаў, а таксама шматлікія прадстаўнікі нацыянальна-дэмакратычных сіл Украіны і замежжа. Віншавальныя тэлеграмы юбіляру даслалі Дзяржаўны камітэт па справах рэлігіі і камісіі Вярхоўнай Рады Ўкраіны па справах духоўнасьці і культуры. На ўрачыстасьцях прысутнічаў нунцый Апостальскай Сталіцы на Ўкраіне архібіскуп Антоніё Франка, мітрапаліт Перамышльскі і Варшаўскі Ян Мартыняк, біскупы УГКЦ, мітрапаліт Украінскай Праваслаўнай Царквы Кіеўскага Патрыярхату Андрэй Горак. Асабістае віншаваньне ўладыку В.Стэрнюку даслаў Рымскі Архірэй Ян Павел II.

Архібіскуп Валадымір Стэрнюк нарадзіўся 12 лютага 1907 году ў м.Пустамыты, што каля Львова ў сям'і сьвятара. Вучыўся ў Бельгіі ў малой семінарыі айцоў рэдэмптарыстаў. Пасьля навіцыяту ў 1926 годзе ён склаў манаскі послух і паступіў на багаслоўскія студыі, дзе 2 гады вывучаў філасофію і 4 гады тэалогію. У 1931 годзе быў высьвячаны на сьвятара. У 1932 годзе ён вярнуўся на радзіму і нёс манаскі послух у Ковельскім манастыры на Палесьсі, а ў пазьнейшы перыяд — працаваў у прыходах Галічыны і Львова. У 1947 годзе а. Валадымір Стэрнюк быў арыштаваны. У Архангельскай вобласьці каля г.Ерцэва прайшлі гады ягонага ўвязьненьня. Толькі ў 1952 годзе ён вярнуўся на Ўкраіну. Ва ўмовах забароны Грэка-Каталіцкай Царквы вымушаны быў працаваць вартаўніком, абліцоўшчыкам, санітарам, фельчарам.

У 1967 годзе а. Валадыміра Стэрнюка падпольна высьвяцілі на біскупа. Пасьля сьмерці ўладыкі Васіля Велічкоўскага ён прыняў адказнасьць за стан Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы, а з 1972 году архібіскуп Валадымір Стэрнюк стаў месцаахоўнікам і старшым біскупам Галіцкай мітраполіі. На гэтай пасадзе ён заставаўся да вяртаньня на Ўкраіну ў 1991 годзе главы УГКЦ Міраслава Івана кардынала Любачыўскага. Сёньня ўладыка Валадымір Стэрнюк, шчыры прыяцель беларускіх грэка-католікаў, зьяўляецца архібіскупам-эмірытам. Рэдакцыя газеты "Царква" і беларускія грэка-каталікі далучаюцца да віншаваньняў юбіляра. Нізкі паклон і шчырая ўдзячнасьць вам, уладыка, за вашу самаадданую працу!

## Настаяцель полацкага манастыра студытаў узначаліў новую місію ў Канадзе

**Закон манахаў-студытаў Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы адчыняе сваю новую місію ў г.Сан-Кэтрын, што ў канадзкай правінцыі Антарыё. На просьбу ўладыкі Таронцкага Ізыдара Барэцкага настаяцелем місіі прызначаны а. Бенядзікт Алексійчук. Манахі будуць жыць у будынку сьв. Сафіі. На сёньняшні дзень айцам-студытам належыць 2 Лаўры, 8 манастыроў і вышэйзгаданая місія.**

**Нагадаем, што яшчэ да нядаўняга часу а. Бенядзікт працаваў сярод грэка-католікаў у Беларусі і зьяўляўся настаяцелем манастыра студытаў у Полацку.**

# Украінскія навукоўцы распрацавалі для школы курс "Хрысьціянская этыка"

Праграму новага курсу "Хрысьціянская этыка" для школ заходніх абласьцей Украіны распрацавалі навукоўцы Львоўскага дзяржаўнага ўніверсітэту імя І.Франко. Цяпер, пасьля таго, як праграма курса "Хрысьціянскай этыкі" знайшла падтрымку ў кіраўнікоў абласных упраўленьняў асьветы, навукоўцаў і багасловаў УГКЦ, для наданьня ёй праўавой вагі чакаецца яе зацьвярджэньне кіраўнікамі абласных упраўленьняў асьветы заходніх абласьцей Украіны. Прапанавана таксама зьвярнуцца па блаславеньне новага школьнага курса да ўладык традыцыйных украінскіх Цэркваў.

Як адзначаецца ў "Тлумачальнай запісцы", задачамі прадмету "Хрысьціянская этыка" зьяўляюцца: гадаваньне духоўнасьці ўкраінскай нацыі, фармаваньне асобы шкаляра на прынцыпах хрысьціянскай маралі, гадаваньне дабрыні, чалавечнасьці, міласэрнасьці, сумленнасьці, працавітасьці, выхаваньне духоўна багатай асобы, якая б усьведамляла сваю нацыянальнасьць перад Богам, Бацькаўшчынай і народам.

Зьмест праграмы прыстасаваны да нацыянальнай асновы, у ёй выкарыстаны педагагічна-выхаваўчы досьвед украінскага народу, яго нацыянальная адметнасьць. Курс разьлічаны на 30-32 гадзіны выкладаў у кожным класе. Тэматыка выкладаў выглядае наступным чынам:

— у пачатковых класах яна засяроджана на пазнаньні людзкіх каштоўнасьцяў ("Дзівасьвет", "Сям'я, род, народ", "Дабро і зло");

— у сярэдніх класах тэматыка выкладаў скіравана на непасрэднае пазнаньне Бібліі ("Сьвет Бібліі", "Хрыстовы прыпавесьці", "Ісус Хрыстос — ідэал для насьледаваньня", "Божыя запаведзі");

— у старшых класах паглыбляецца пазнаньне хрысьціянскіх каштоўнасьцяў, праз якія адбываецца падрыхтоўка да самастойнага жыцьця ("Чалавек у сьвеце", "Этыка сямейнага жыцьця", "Хрысьціянскі сьветапогляд і мараль").

Ужо ў хуткім часе можна чакаць заканчэньня працы і над падручнікам для курсу "Хрысьціянскай этыкі". Працу над ім вядуць навукоўцы і багасловы.

## *Юбілейны вечар памяці патрыярха УГКЦ*

16 лютага грамадзкасьць Украіны адзначыла 105 гадавіну з дня народзінаў выдатнага царкоўнага дзеяча мітрапаліта Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы Ёсыфа Сьліпога. Юбілейны вечар з гэтай нагоды прайшоў у Кіеве. На вечарыне прысутнічалі Кіева-Вышгарадзкі экзарх УГКЦ Міхаіл Колтун, духавенства УГКЦ і УПЦ КП, вядомыя навукоўцы. З дакладам пра гістарычную ролю Ёсыфа Сьліпога выступіў прафесар духоўнай акадэміі Украінскай Праваслаўнай Царквы Кіеўскага Патрыярхату Дзьмітро Стэпавык.

Да гэтай падзеі была прымеркавана выстава прац мітрапаліта Ёсыфа Сьліпога і літаратура пра яго, а таксама быў паказаны дакументальны фільм Аляксандра Каваля пра жыцьцё вызнаўцы і падзьвіжніка Ёсыфа Сьліпога, які ўзначальваў УГКЦ у часы рэпрэсіяў і адбыў 18 гадоў на катарзе і ссылцы за сваю стойкасьць у веры.

*Інфармацыя падрыхтавана паводле паведамленьняў Агенства рэлігійнай інфармацыі (АРІ), Каталіцкага інфармацыйнага агенства (КАІ) і іншых прэсавых крыніцаў.*



# Сьвятыя тайны Хрыстовай Царквы

Сьвятыя Тайны Новага Запавету ўстаноўлены Самім Ісусам Хрыстом. Іх сем: Хрост, Мірапамазаньне, Споведзь, Еўхарыстыя, Алеепамазаньне, Сьвятарства, Шлюб.

Гэты артыкул ня мае на мэце ўсебакова асьвятліць усе багаслоўскія аспэкты Сьвятых Тайнаў. Таму хацелася б засяродзіць увагу на практычным баку Тайнаў. На жаль, многія з вернікаў ня ведаюць, як рыхтавацца да прыняцьця Сьвятых Тайнаў, як правільна і годна іх прыняць.

Сваёю сьмерцю на крыжы Ісус Хрыстос адкупіў грахі чалавецтва і падараваў ласку Божую для ўсіх, каб кожны мог карыстацца пладамі адкупленьня і дасягнуць збаўленьня. "Вы апраўданыя імем Госпада Ісуса Хрыста і Духам нашага Бога" (1 Кар. 6, 11).

Такім чынам, Сьвятыя Тайны — гэта бачныя знакі нябачнай Божай ласкі.

У багаслоўскім значэньні ласка Божая — гэта надпрыродны Божы дар, які Бог дае разумным істотам, каб яны маглі атрымаць вечнае жыцьцё. Ласка Божая робіць людзей сьвятымі, праведнымі. Яна дапамагае нашай волі выконваць добрыя справы рабіць сапраўдныя цуды.

Усё літургічнае жыцьцё Царквы канцэнтруецца вакол еўхарыстычнай Ахвяры і Сьвятых Тайнаў. Сьвятыя Тайны зьяўляюцца Тайнамі Царквы, бо яны ёсьць вынікам дзеяў Хрыста. Ён асьвячае Свой народ праз заснаваную Ім Царкву. Мэтай Тайнаў зьяўляецца асьвячэньне чалавека, будова містычнага Цела Хрыстовага, адданьне хвалы Богу. Сьвятыя Тайны даюць нам боскае, надпрыроднае жыцьцё, умацоўваюць яго.

Устанавіўшы Сьвятыя Тайны, Хрыстос выявіў Сваю вялікую любоў да людзей. Сын Божы зьявіўся ў слабым людзкім целе, каб зрабіць нас удзельнікамі Божай прыроды, падобнымі да Бога. Сьвятыя Тайны прыстасаваныя да чалавечай прыроды, якая складаецца з душы і цела, з духа і матэрыі. Тайны зьяўляюцца бачнымі знакамі, якія дапамагаюць чалавеку духоўна расьці і дзейнічаць у дасканаласьці нават да асноўнай мэты — поўнага адзінства з Богам.

Сьвятыя Тайны выражаюць таксама веру Царквы, веру, атрыманую ад апосталаў. Гэтая вера выяўляецца і праз сутнасць Тайнаў, і праз абрады. Таму служыцель, які зьдзяйсьняе Сьвятыя Тайны, ня мае права самавольна зьмяняць абрады. Нават найвышэйшыя аўтарытэты Царквы могуць зьмяніць абрад толькі ў духу послуху веры і ўшанаваньня традыцыі.

Сьвятыя Тайны дзейнічаюць *ex opere operato* (праз сам факт спаўненьня чынасьці). Дзейснасьць Тайнаў не залежыць ад маральнага стану сьвятара, які іх зьдзяйсьняе. Бо ласку Божую Тайны дае Сам Госпад Бог, а не чалавек, які служыць толькі інструментам Тайны.

У Сьвятым Пісьме ёсьць падставы для аргументу пра існаваньне сямі Сьвятых Тайнаў. Але канчаткова дагмат пра гэта быў сфармуляваны на II Ліёнскім саборы (1272 г.), у якім прымалі ўдзел і ўсходнія біскупы.

Тры Тайны — Хрост, Мірапамазаньне, Сьвятарства — назаўсёды пакідаюць у душы тых, што іх прымаюць, незьнішчальны знак Божай ласкі. Таму гэтыя Тайны можна прымаць толькі раз у жыцьці.

Прымаць Сьвятыя Тайны можа толькі жывы і ахрышчаны чалавек (Тайна ж Хросту ўдзяляецца, натуральна, таму, хто яшчэ не прыняў хрост). Пасьля 6-8 гадоў жыцьця чалавек ужо ў стане адказваць за свае ўчынкі, і таму абавязковай умовай для яго павінен быць намер прыняць Тайну. Для таго, каб годна прыняць Сьвятыя Тайны, павінна быць жывая вера, надзея на Бога, жаль за грахі, стан асьвячаючай Божай ласкі (выключэньне — Тайна Споведзі, да якой чалавек можа прыходзіць, згубіўшы стан асьвячаючай Божай ласкі), пабожнасць. Прыняцьце Сьвятой Тайны — гэта сустрэча з Хрыстом. З іх дапамогай мы прыходзім да Самога Бога, да пасада Ягонай славы.

## Сьвятая Тайна Хросту

Сьвяты Хрост зьяўляецца падмуркам хрысьціянскага жыцьця, брамаю, якая адчыняе доступ да ўсіх іншых Сьвятых Тайнаў. Ён неабходны нам для збаўленьня, бо Хрыстос жадае гэтага і так наказаў нам рабіць. Сын Божы блаславіў апосталаў хрысьціць усіх верных і абяцаў вечныя кары тым, хто сьвядома і добраахвотна адмовіцца прыняць гэтую Тайну. "Хто не народзіцца з вады і Духа, ня можа ўвайсьці ў Валадарства Божае" (Ян 3, 5).

Хрост — гэта духоўнае адраджэньне. Ахрышчаны становіцца членам Царквы — містычнага Цела Хрыстовага. Чалавек памірае для граху і нараджаецца для Хрыста, становіцца дзіцём Божым, "новым стварэньнем" (2 Кар 5, 17). Сьв. Васіль Вялікі называе Хрост "адкупленьнем вязьняў, прабачэньнем даўгоў, адраджэньнем душы, бліскучым адзеньнем, поклікам да неба, дарам сыноўства".

У Тайне Хросту прабачаюцца першародны і ўсе асабістыя грахі, зробленыя дагэтуль, а таксама й кары за іх. Хрост — новазапаветная Тайна, заснаваная Ісусам Хрыстом, у якой чалавек праз абмыцьцё вадою і прысьвячэньне Богу адзінаму ў Тройцы, становіцца вучнем Хрыста і новым стварэньнем.

Кожны неахрышчаны чалавек, як дарослы, так і дзіця, у любым узросьце можа прыняць гэтую Тайну. Яе можна прыняць толькі адзін раз у жыцьці. У нармальных умовах Хрост можа ўдзяляць біскуп і сьвятар. Але ў надзвычайным выпадку (напрыклад, дзіця вельмі слабое і існуе небясьпека, што яно памрэ да прыходу сьвятара) ахрысьціць можа і кожны чалавек, нават калі ён сам не ахрышчаны. Патрэбна толькі, каб такі чалавек меў намер зрабіць тое, што робіць Царква, паліў таго, каго хрэсьціць вадою (нават неасьвячанай) і вымавіў словы формы Хросту: "Хрысьціцца слуга Божы (імя) у Імя Айца, і Сына, і Сьвятога Духа. Амін." Але ніхто ня можа ахрысьціць сам сябе.

Калі чалавек хоча стаць каталікам усходняга абраду (грэка-каталікам), але ня мае магчымасьці хрысьціцца ў гэтым абрадзе, ён мае права прыняць Хрост у лацінскім абрадзе і ў далейшым атрымоўваць душпастырскую апеку ў рыма-каталіцкім касьцёле да зьяўленьня грэка-каталіцкай царквы. У крайнім выпадку, калі няма нават такой магчымасьці, чалавек можа зьвярнуцца з просьбай аб удзяленьні Хросту нават да праваслаўнага сьвятара.

Дзеці павінны быць ахрышчаны як мага хутчэй. Нельга марудзіць і адкладаць прыняцьце гэтай Тайны. Але ня можна таксама хрысьціць дзяцей супраць волі бацькоў.

Пры Хросце даецца імя згодна з воляй бацькоў. Але не прынята даваць імя, якое належыць Богу, а таксама — выдуманае, якое ніхто ня ведае і паганскае.

Дарослым, для дзейснага прыняцьця Сьвятой Тайны Хросту, найперш па-

трэбны адпаведны намер. Для годнага прыняцьця гэтай Тайны чалавек павінен мець веру, надзею на Бога, жаль за грахі, ведаць асноўныя праўды веры.

Хрост удзяляецца і ў тых выпадках, калі існуе сумненьне, ахрышчаны хто ці не. Пры гэтым робіцца пэўная агаворка.

Пры ўрачыстым Хросьце патрэбна мець хросных бацькоў (асабліва важна пры Хросьце дзяцей). Хросныя бацькі павінны быць веруючымі і практыкуючымі каталікамі любога абраду, ахрышчанымі, мірапамазанымі. Яны павінны мець намер выконваць абавязкі хроснага, ведаць, што яны нясуць адказнасьць за ўзрастаньне ў хрысьціянскім жыцьці свайго хрэсьніка. Ня можа быць хросным бацькам родны бацька або маці хрэсьніка, а таксама асобы, пазбаўленыя царкоўнаю ўладаю права выконваць абавязкі хроснага бацькі. Трэба заўважыць, што паміж хроснымі бацькамі і хрэсьнікам паўстае духоўнае радзтво, і таму яны ня могуць уступіць адзін з адным у шлюб.

Прыймаючы Хрост, мы адракаемся ад сатаны і яднаемся з Ісусам Хрыстом, абяцаем усё жыцьцё служыць Яму. Памятайма пра гэта.

## Сьвятая Тайна Мірапамазаньня

"Тады паклалі на іх рукі і яны прынялі Сьвятога Духа" (Дз 8, 15-17).

У Сьвятым Пісьме Хрыстос шматразова гаварыў пра Сьвятога Духа і абяцаў паслаць Яго тым, хто прыме Евангельле. "Хто паверыць у Мяне, то, як гавораць пісаньні, рэкі жывой вады пацякуць з ягонага чрэва" (Ян 7, 38). Сьвяты Ян дадае: "Так Ён казаў пра Духа, якога павінны былі прыняць тыя, якія паверылі ў Яго" (Ян 7, 39). Апосталы ня ўводзілі нічога новага ў жыцьцё Царквы, чаго б не навучыліся ад Збавіцеля. І ўжо ад самога пачатку яны практыкавалі Мірапамазаньне.

Тайна Мірапамазаньня зьяўляецца завяршэньнем Тайны Хросту. Ахрышчаны чалавек — як быццам малое дзіця ў духоўным жыцьці. Хоць ён адрадзіўся з дапамогаю Божай ласкі і ачысьціўся ад першароднага і іншых грахоў, усё ж ён яшчэ не зьяўляецца духоўна дарослым. Яму патрэбна Божая дапамога, каб перамагаць д'ябальскія спакусы, каб ісьці да хрысьціянскай дасканаласьці.

Сьвятая Тайна Мірапамазаньня дае хрысьціянам адвагу вызнаваць, бараніць і пашыраць Сьвятую веру. У гэтай Тайне праз памазаньне мірам, асьвячаным біскупам, і пакладаньне рук ахрышчаны ўмацоўваецца ў Божай ласцы і пазначаецца як воін Хрыстовы.

Падобна як і Сьвятую Тайну Хросту, Мірапамазаньне можна прыняць толькі раз у жыцьці.

Сьв. Кірыла Ерусалімскі так паясьняе збаўчыя плады Мірапамазаньня: "Як цела памазваецца бачным мірам, то душа асьвячваецца Сьвятым *і жыцьцядайным* Духам. Найперш вы памазаны на чале, каб звольніцца ад ганьбы, якую прынёс паўсюды першы чалавек (Адам)... Потым на вушах, каб вы слухалі Божых Тайнаў... Потым на ноздрах, каб вы маглі сказаць па атрыманьні Божага міру: "Мы зьяўляемся для Бога прыемным водарам Хрыста паміж збаўленымі". Апасьля мы былі памазаны на грудзях, каб апрануцца ў зброю справядлівасьці..."

Ва ўсходнім абрадзе Сьвятую Тайну Мірапамазаньня ўдзяляе сьвятар адразу пасьля Хросту, у лацінскім — звычайна біскуп, прычым удзяляе яе чалавеку, які ўжо дайшоў да пэўнага ўзросту. Згодна з рашэньнямі II Ватыканскага Сабору сьвятары лацінскага абраду пры неабходнасці могуць удзяліць Мірапамазаньне ў тым ліку і вернікам усходняга абраду.

У Сьвятой Тайне Мірапамазаньня Ісус Хрыстос адзначае нас пячаткай Свайго Духа, апранае нас Сваёй сілай, каб мы былі Ягонымі сьведкамі.

*(Працяг будзе)*

**Яўген Петухоў**

*г.Берасьце*

***Для дзяцей***

# Найлепшая ахвяра

Ты, пэўна, памятаеш, дружа, такі момант з гісторыі пра Каіна і Абеля: "Калі праз нейкі час Каін прынес у дар Госпаду плады зямныя, і Абель таксама прынес першародных са свайго статку..." (Кніга Роду 4, 3-4).

Што гэта такое — дар Госпаду, і навошта людзі прыносілі яго?

У старажытнасьці існаваў такі звычай — для Бога адмаўляцца ад якіхсьці патрэбных рэчаў. Звычайна гэта былі сельскагаспадарчыя прадукты (зерне, садавіна, гароднiна) ці свойскія жывёлы (авечкі, козы, быкі). Іх забівалі, а мяса спальвалі. Гэта і называлася ў тыя часы дарам Госпаду, ці ахвярай.

Для чаго ж прыносіліся гэтыя ахвяры? Людзі, якія ня ведалі сапраўднага Бога, думалі, што іх божышчы ядуць гэтыя харчы. А таму, каб атрымаць якія-небудзь даброты, прыносілі ў ахвяру найлепшае. Былі такія народы, якія ахвяравалі сваім багам нават людзей.

Народ Ізраіля, які ў тыя часы захоўваў у сапраўднага Бога, таксама прыносіў ахвяры.

Найперш гэта быў як бы проста падарунак. Усе людзі любяць атрымліваць падарункі. І, нават, калі хтосьці дарыць нязначныя рэчы — гэта прыносіць нам радасьць. Таму, каб выказаць сваю любоў да Бога, народ Ізраіля прыносіў ахвяры.

Але галоўны сэнс быў у наступным: людзі ведалі, што яны грэшнікі. Ведалі яны таксама, што Бог — сьвяты, і Ён ненавідзіць усялякі грэх. Каб зьменшыць тую бездань, што аддзяляе людзей ад Бога, яны наносілі сабе такую шкоду, якая б была адчувальнай. Але загладзіць сваю віну яны ніяк не маглі.

Выйсьце з гэтай безнадзейнай сітуацыі знайшоў Сам Бог. Сын Божы Ісус Хрыстос прыйшоў у гэты сьвет. Ён быў Богам, але стаўся чалавекам. Менавіта Ён стаў тою дасканалаю Ахвяраю, якая загладзіла ўсе людзкія грахі. "Гэта Агнец Божы, які ўзяў на сябе грахі сьвету".

Як гэта сталася? Ня ведаю. Не разумею. Як жа я, грэшны чалавек, магу зразумець сьвятога Бога, Найдасканалейшую Любоў? Я толькі веру ў тое, што гэта сапраўды так.

Аднак ты, дружа, можаш сказаць: "А што рабіць з маімі грахамі? Ісус Хрыстос памёр за грахі тых людзей, якія жылі калісьці, а я ж нарадзіўся запозна". Гэта ня так. Сын Божы прынёс ахвяру за ўсіх людзей, якія жылі, якія жывуць, якія будуць жыць — аднойчы і на ўсе часы. Акрамя таго, Хрыстос — Галава чалавецтва, праз Яго мы можам дасягнуць Бога.

Што нам патрэбна рабіць для таго, каб дасягнуць Бога? Кожны з нас павінен папрасіць у Бога прабачэньня, стацца падобным да Хрыста, злучыцца з Ім, пераняць тыя пачуцьці, якія напаўнялі сэрца Хрыста падчас Яго ахвяраваньня, прыняць тыя плады, якія Хрыстос здабыў сваёю ахвяраю.

І яшчэ ты таксама можаш прынесьці дар Госпаду — любоў да Яго.

**Андрэй Крот**

*г.Берасьце*



*У 1997 годзе спаўняецца 35 гадоў з часу адкрыцьця II Ватыканскага Сабору, які стаў значнай падзеяй ня толькі ў жыцьці Каталіцкай Царквы, але і ў жыцьці ўсяго хрысьціянскага сьвету. На ім разглядаліся важныя праблемы сучаснасьці, у тым ліку сацыяльныя. Аднак дамінуючым было пытаньне еднасьці хрысьціянаў. Менавіта на гэтым Саборы адбылася важная гістарычная падзея —7 сьнежня 1965 году перад закрыцьцём Сабору Рымская і Канстанцінопальская Царква зьнялі адна з другой праклён, што існаваў ажно з 1054 году.*

*На жаль, для беларусаў (як і для ўсіх жыхароў колішняй краіны ваяўнічых бязбожнікаў — СССР) гэтая падзея сусьветнага маштабу, яе гістарычныя рашэньні дагэтуль застаюцца амаль невядомымі. Рэдакцыя "Царквы" мае на мэце прыадчыніць гэтую штучную заслону, пазнаёміўшы як з атмасферай II Ватыканскага Сабору, так і з асобнымі яго рашэньнямі і дакументамі.*

*Гэтым разам увазе чытачоў прапануецца напісаны ў час правядзеньня Сабору артыкул "O, śviataja Maci Eklezija!" з беларускага рэлігійнага часопіса "Źnič" (№ 74, кастрычнік-сьнежань 1963 года), які друкаваўся на эміграцыі, а таксама ўрывак з кнігі Яна Паўла II "Пераступіць парог надзеі".*

# О, сьвятая Маці Эклезія!

У нядзелю 29 верасьня паўмільярда каталікоў з цэлага кругасьвету зноў зьвярнулі свае вочы на Вечнае Места Рым. У гэтым бо дню распачаўся другі пэрыяд XXI Сусьветнага Сабору. Над гробам першага Папы Пятра і дзьвесьце шэсьцьдзесят трэцяга Папы Яна зыбралося каля 3000 Айцоў Гэрархаў, а знача болей, чым летась 11 кастрычніка на самае Адкрыцьцё яго, паміма некалькі дзясяткаў памёршых, іх бо месца занялі новыя з дадаткам тых, што не маглі прыбыць у першым пэрыядзе, як нп. многалетні вязень Сібіры JE. Archibp Львова, Язэп Сьліпый, Мітрапаліт Украіны, чэхаславацкія й мадзярскія Гэрархі ды інш. Вочы тых Айцоў удзейнікаў, як і ўсіх верных сыноў Эклезіі, а такжа ўсіх добрых хрысьціян дый людзей добрае волі наагул, сёлета гарэлі асаблівай цікавасьцю, углядаючыся на новую постаць, Папы Паўла VI-га, уходзячую на цэрэмонію Адкрыцьця маестатычна, але й пакорна ў сабаровую аўлю, бы той абыдны Святар, што багабойна ўвайходзіць у прэзбытэрыю адпраўляць Найсьвяцейшую Ахвяру; якбы наглядна хацеў Яго Сьвятасьць адцеміць вялікую ролю сваіх братоў Біскупаў, якіх Дух Сьвяты паклікаў пастыраваць, а знача й дэбатаваць, аб Сваёй Эклезіі. Яна й была галоўным аб'ектам нарадаў 2 пэрыяду Сабору.

Божы вобраз тае Эклезіі Папеж Павал VI мае ў ваччу сваім заўсёды; яго няраз ужо выяўляў ён у сваіх прынагодных прамовах яшчэ як Архіпастыр Мілану, адкуль пакліканы на Апостальскі Пасад. Для яго Эклезія гэта тая наўзьбярэжная марская вартоўня высокая, агляданая й апісаная вешчым Гэрмасам, пабудована зь бялюсенькага каменьня, зьнесенага ня толькі з усяго кругазем'я, але навет і з дна акіянаў. Больш таго — Эклезія (Субожня) — гэта Містычнае (тайнічнае) Цела Збавіцелева, а знача — жывы арганізм, галавою якога ёсьць Хрыстус, вернікі-ж — яго часьцінамі. Ягоны Дух ажыўляе тайнічны той арганізм; а хлебам яму — Найсьвяцейшая Эўхарыстыя. Бы той хлеб, што... "калісь рассеены ў горах (будучы шчэ пшаніцай) потым быў зыбраны разам, гэтак зьбяры (Ўсегаспадару) й Эклезію Тваю з усіх канцоў сьвету ў вадно Валадарства" *(Didache, 9)*.

Каб добра ўцеець веліч тае падзеі, якою зьяўляецца Экумэнічны Сабор Хрыстусавай Эклезіі (Царквы), трэба глядзець на яе ў сьвятле тайніцы Ўцелаўлення Божага Слова, так як гэта рабіў Сьв. Тамаш з Аквіну. Хрысьціянін у Эклезіі (Касьцеле), праз веру й сьв. Сакрамэнты, удзейнічае ў Божай натуры, ён бо зьяўляецца часьцінай Містычнага Цела Хрыстуса. Тайніца Ўцелаўлення Божага Слова ёсьць базай і фундамантам для Цела Эклезіі (Касьцёла). Краевугольным каменем яе — кажа Апостал у Лісьце да Эфэзцаў — ёсьць Хрыстус; таму часьціны Эклезіі — гэта часьціны Хрыстуса, праз Эклезію спалучаныя зь Ім ды самы з сабою, так-што яны маюць удзел у Боскім жыцьці й хвале Хрыстуса як Галавы.

Бяссумніўна, ласка Божая шмат каму адкрывае сяньня вочы на разуменне Тайніцы Эклезіі так, што падчас Экумэнічнага Сабору навет нядаўныя ворагі Каталіцызму пачынаюць аб ім выслаўляцца з подзівам і пашанай. Нарадам Сабору прыслухоўваецца не малая колькасьць (каля 70) назіральнікаў іншых веравызнанняў.

На нашых вачах шмат людзей пачынае маліцца славамі Сьв. Францішаз Асыжу: "О, сьвятая Маці Эклезія! Мы, нявернікі й небаракі не здаём сабе справы з дабраты твае. Ты мосьціш і паказваеш нам шлях збаўлення. Тые, што па ім ісьцімуць, не апракудзяцца, але дойдуць да славы".

На тым збаўленным шляху яшчэ недаўна аглядалі дзеці тае Маці сьветлую постаць Папежа Яна XXIII як Добрага Пастыра ды як аўтара Сабору. Таму ў дню сьмерці яго слушна пыталі сябе: што будзе далей із Саборам? На адказ ня трэ' было доўга чакаць — даў яго зараз пасьля свайго выбару годны Наступнік пакойнага Добрага Пастыра. Папеж Павал VI, калі ў першай пасьлявыбарчай сваёй прамове запавясьціў, што ўсю сваю энергію, усе сілы, якімі будзе распараджацца, пасьвяціць справе прадаўжання й, калі Бог пазволіць, завяршэння Экумэнічнага Сабору. Яго Сьвятасьць даў гэны адказ фактычна яшчэ ў *Milano* пры нагодзе пасьмертнага памінання Папы Яна XXIII. Тады якога Кардынал Montini з дзіўнаю пэўнасьцю асьветчыў, што гроб гэнага Найвышэйшага Гэрарха ня можа замкнуць у сабе багатага насьледзьдзя па Ім. Гэты гроб будзе зьнічам далейшага дзеяння і досьцігаў Сабору. Зрэшты, гэтак-жа ўжо калісь і Старазапаветны Мудрэц запэўніваў: "Зы сьмерцю мужа праведнага, надзея не гасьне..."

Надзея тая расьце, калі прыгледзецца ды прыслухацца далейшаму ходу працы, дыскусыяў ды рэзалюцыяў гэтулькіх ужо разгледжаных паглыбленых і дамяркаваных да нашых модэрных усестаронных патрэбаў: літургічных, дыдактычных (навучальных), гэрархічна-адміністрацыйных, сацыяльна-арганізацыйных, а надусё — экумэнічных таго пацыфістычнага збратаньня ды ссалідарызаваньня ў справядлівасьці й любасьці усіх хрысьціян, усіх рэлігіяў, усіх людзей і народаў пад адным Найвышэйшым Праўдзівым Ідэалам.

Пэўнаж, усіх афіцыяльных рэзалюцыяў канкрэтна падаць тут яшчэ нельга, яны дэфінітыўна апублікуюцца пасьля заканчэння Сабору.

Скажам толькі, што і беларусы ня маюць падставаў да безнадзейнасьці, бачучы між Айцамі Сабору такжа і сваіх, хай сабе й ня многіх ды не ў ва ўсім дэцыдуючых, а ўсёж рэпрэзэнтуючых наш народ зь ягонымі патрэбамі на гэтай сусьветна-гістарычнага значэння Сьвятой Асамблеі.

**МТ.**

*(Аўтэнтычны тэкст пададзены беларускай лацінкай, у астатнім стыль і мова артыкула цалкам захаваныя)*

*Разьдзел з кнігі Сьвятога Айца Яна Паўла II*

# Пераступіць парог надзеі



## 24. Касьцёл на Саборы

***Дазвольце мне і надалей, правакуючы з усёю павагаю, выступаць ад імя тых, хто, адкінуўшы і аптымізм, і песімізм, хоча цьвёрдага рэалізму. Як вядома, шмат хто лічыў і працягвае лічыць, што (падводзячы вынікі дзесяцігоддзяў, якія мінулі пасьля Сабору) дзьверы, насьцеж адчыненыя II Ватыканскім Саборам, паслужылі хутчэй аддаленьню ад Касьцёла тых, што былі "ўнутры" яго, чым набліжэньню тых, што заставаліся па-за ім. Некаторыя б'юць трывогу ў сувязі з сітуацыяй Касьцёла, у якім еднасьць веры і дысцыпліна прыкметна аслаблі пад пагрозаю цэнтрабежных тэндэнцый.***

Дазвольце яшчэ раз не пагадзіцца з такога роду персьпектывамі. Папярэдне сказанае, дае мне падставы бачыць усё іначай. Маё меркаваньне заснавана перш за ўсё на веры ў Духа Сьвятога, які вядзе Касьцёл, а таксама на ўважлівым назіраньні за фактамі. II Ватыканскі Сабор — вялікі дар для Касьцёла, для ўсіх, хто ў ім удзельнічаў, дар для ўсяе чалавечай сям'і, для кожнага з нас.

Цяжка сказаць пра II Ватыканскі Сабор штосьці новае. У той жа час пастаянна ўзьнікае неабходнасьць зьвяртацца да яго, паколькі гэты Сабор стаўся заданьнем і выклікам для Касьцёла і сьвету. Узьнікае таксама патрэба гаварыць пра Сабор, каб даць яму належную інтэрпрэтацыю і абараніць ад інтэрпрэтацый тэндэнцыйных. Бо такія інтэрпрэтацыі існуюць, яны не зьявіліся толькі пасьля Сабору, у пэўным сэньсе Сабор застаў іх ужо ў сьвеце і нават у Касьцёле, як пэўную схільнасьць ці нежаданьне яго прыняць, зразумець і правесьці ў жыцьцё.

Мне выпала асаблівае шчасьце ўдзельнічаць у Саборы з першага да апошняга дня. Гэта было зусім ня проста, паколькі камуністычныя ўлады мае краіны лічылі паездку ў Рым прывілеем, якім яны цалкам распараджаліся. Калі ж і ў тых умовах мне было дадзена ўдзельнічаць у Саборы ад пачатку да канца, то слушна можна ўгледзець у гэтым асаблівы дар Божы.

На падставе саборавага вопыту ў мяне зьявілася кніга "Каля вытокаў абнаўленьня". Напачатку гэтай кнігі я адзначыў, што яна — спроба сплаціць доўг, які кожны біскуп, удзельнічаючы ў Саборы, займеў перад Духам Сьвятым. Так, у Саборы было штосьці ад Пяцідзясятніцы. Ён скіраваў Епіскапат усяго сьвету, а значыць і Касьцёл, менавіта на тыя шляхі, па якіх ён павінен крочыць на зыходзе другога тысячагоддзя. Пра гэтыя шляхі гаворыць Павел VI у энцыкліцы *Ecclesiam suam* (пар. раз. 60 пп.).

Я распачынаў свой удзел у Саборы як малады біскуп. Памятаю, што маё месца было спачатку каля ўваходу ў базіліку Сьвятога Пятра, а з трэцяй сесіі, калі я быў менаваны арцыбіскупам Кракаўскім, я перамясьціўся бліжэй да алтара.

Сабор даваў магчымасьць пачуць іншых, але й вучыў таксама творча думаць. Зразумела, старэйшыя і больш вопытныя біскупы працавалі больш на карысьць высьпяваньня саборавай думкі. Я, як малодшы, хутчэй, вучыўся, але паступова таксама пачаў больш стала і творча ўдзельнічаць у Саборы. Такім чынам падчас ужо трэцяй сесіі я апынуўся ў групе, якая рыхтавала так званую Схему XIII, што пазьней стала пастырскаю Канстытуцыяй *Gaudium et spes*, і мог удзельнічаць у надзвычай цікавай працы гэтай групы. У яе ўваходзілі прадстаўнікі тэалагічнай камісіі і апостальства сьвецкіх. Незабыўнаю была для мяне сустрэча ў Арычча пад Рымам у студзені 1965 года. Я многім абавязаны кардыналу Габрыэлю-Мары Гаронэ за яго істотную дапамогу ў апрацоўцы новага дакумента. Тое ж самае я хачу сказаць пра іншых біскупаў і тэолагаў, з якімі мне пашчасьціла працаваць. Асабліва многім я абавязаны айцу Іву Конгару і айцу Анры дэ Любаку. Памятаю яшчэ й сёньня, якімі словамі гэты апошні заахвочваў працягваць тую лінію, якая абазначылася, дзякуючы майму ўдзелу ў дыскусіі. Гэта было ўжо ў часе сходаў у Ватыкане. З таго часу я асабліва пасябраваў з айцом дэ Любакам.

Сабор быў вялікім перажываньнем Касьцёла, альбо, як тады гаварылася, — "семінарыяй Духа Сьвятога". На Саборы Дух Сьвяты гаварыў усяму Касьцёлу ў яго ўсеагульнасьці. Гэта ўсеагульнасьць праявілася ў тым, што ў Саборы ўдзельнічалі біскупы з усяго сьвету, а таксама вельмі многія прадстаўнікі некаталіцкіх Цэркваў і супольнасьцяў.

А тое, што гаворыць Дух Сьвяты, заўсёды ёсьць глыбінным пранікненьнем у спрадвечную таямніцу і, у той жа час, указвае шлях тым, хто павінен несьці гэтую таямніцу ў сучасны сьвет. Сам факт, што гэтыя людзі, скліканыя Духам Сьвятым, сталі ў часе Сабору асаблівую супольнасьцю, якая разам слухала, разам малілася, разам мысьліла і тварыла, мае асноватворнае значэньне для евангелізацыі, лепш сказаць — для новай евангелізацыі, якая з гэтага II Ватыканскага Сабору распачалася. Гэта цесна зьвязана з новаю эпохаю ў гісторыі чалавецтва, а таксама ў гісторыі Касьцёла.

*(Працяг будзе)*

*Пераклад*
**Крыстыны Лялько**

# З аўтастрады мрояў да першай усьмешкі



Я нарадзіўся 22 гады таму ў сям'і католікаў, як раз на сьвята Трох Каралёў... Няўжо зьбег акалічнасьцяў паміж тымі паганцамі, што былі пакліканы, каб хваліць Госпада, і маім шляхам да Крыжа? Бог сваю пакору выяўляе акурат у гульні выпадкаў, заўжды, аднак, занадта рана, каб рабіць суд пра свой уласны крыж.

Адлучаны ад бацькоў ва ўзросьце 3 гадоў, я выхоўваўся ў маёй хроснай маці. Асяроддзе, у якім я знаходзіўся, было з тых, дзе хрысьціянская вера ёсьць рэчаіснасьцю, якая не паддаецца ніякаму сумненьню. Але, не зважаючы на гэта, ва ўзросьце 14 гадоў я перажыў той класічны перыяд амярцьвеньня, калі пасьля бежмаваньня я не адчуваў ужо далейшай патрэбы катэхізаваньня. Паволі я канчаткова аддаліўся ад рэлігіі. Царква азначала для мяне нядзельную сьв. Імшу, споведзь жа — абрадавую чыннасьць, якая паўтараецца без будзь якой глыбіні.

Будучы па характары запальчывым, я скарыстаў свой 17 год жыцьця для таго, каб пакінуць сям'ю, у якой выхоўваўся, з мэтаю распачаць вучобу і кінуць — з прычыны недахопу веры ў Бога — усе рэлігійныя практыкі, якія мяне нудзілі.

Я апынуўся на агульнай для многіх дарозе, шукаючы ў іншым месцы тое, што было ўжо мне дадзена. Вучобу я кінуў досыць хутка, а разам з ёю і ўсё тое, што зьвязвала мяне з грамадзтвам, і пачаў выхваляцца "атэізмам у добрым тоне". Тады я ўжо ўвайшоў у сьвет тых аўтастрадаў мрояў, якімі ўцякаюць, ніколі не разумеючы ад чаго. Наркотыкі, турма, валацужніцтва — гэта той сьмяротэльны кактэйль, у якім нуда, што лёд, плавае на паверхні, а дэпрэсія тырчыць зьдзекліва, як саломінка.

З гэтага кактэйлю нарадзілася жахлівая самотнасьць, у якой чэзьне сэрца, нават тады, калі з тых чараў сочыцца свой церпкі напой.

Вось так я пачаў нанова пераглядаць свой атэізм і займацца сьвядомай гульнёй у пэўныя рытуалы, за якой хацеў схавацца, бо чуў выразнае існаваньне "чагосьці" па-над усім.

Калі ўрэшце тое "нешта" пачало станавіцца Кімсьці, яно шматразова зьмяніла імёны: магія, сьпірытызм, зьніклыя рэлігіі, жах. Спрабаваў утапіцца нават у Крышне.

Бог зьявіўся мне праз сілу свайго жыцьця. Ці бачылі вы калі-небудзь, як малая расьлінка раздрабляе на кавалкі нават найцьвярдзейшыя камяні, што аддзяляюць яе ад сонца?

Я не чакаў таго Бога, які быў і які надыходзіў, таму таксама працяглы час знаходзіўся на псіхіятрычным лячэньні як цалкам адарваная ад грамадзтва адзінка!

Надыйшоў 1982 год. П'янкія сродкі нязьменна трымалі мяне ў шпонах чорнай меланхоліі. І вось ў Вялікі Тыдзень мінулага году... сусед з пакоя — я жыву ў доме грамадзкай апекі — застаў мяне зьнянацку:

— Скажы, но..., таго, скажы, ці ты колешся?...

— Ох...

— Ведаеш, хачу табе пра Кагосьці расказаць, пра Ісуса. Я таксама калоўся, але Ён мяне з гэтага вызваліў!

У тую самую хвіліну я засьмяяўся са зьедлівасьцю ўнутры: "Няхай той, хто з вас без граху... кіне ў мяне першы каменем!" (пар. Ян 8, 7).

Я жыву на трэцім паверсе, і вось менавіта ў гэты момант у шыбу стукнуў нейкі камень. А мы абодва ў пакоі пачулі найперш страх, занадта моцным, аднак, было тое, што здарылася, каб мы адразу маглі сабе гэта ўсьвядоміць. Камень не пабіў шыбу, але забіў дракона, які трымаў у кляшчах маё сэрца.

І вось я, які тры дні ня мог заснуць, праз паўгадзіны пазьней адчуў, што гэта ёсьць праўдзівы сон. Пасьля прабуджэньня ж першы раз за доўгі час — а можа, і ў жыцьці — я ўсьміхнуўся, так я ***жыў***. А Хрыстос не быў ужо нейкай далёкай, зацёртай постацьцю з мінулага, але Сынам Айца, Айца жывога, так як і Ён быў жывы.

З таго часу я зразумеў, што тая сьцяжынка радасьці працягваецца, пачынаецца нанова штодзень. Чатыры гады ночы не зьнікаюць проста так, у адзін дзень, але тым ня менш становяцца зусім маленькімі ў параўнаньні з адной ці дзьвюма атрыманымі ласкамі Божымі.

**Жан**

❉ ❉ ❉

З часу свайго навяртаньня Жан працуе на фабрыцы, пры вытворчым канвееры. Перад кожнай, выконваемай на машыне аперацыі, моліцца. Вечарам пасьля працы займаецца хіпі з пляцу Карно *(Carnot)* і ўсімі, што церпяць, такімі, якія жадаюць нешта зьмяніць. Аддае ім увесь свой заробак. Купляе ім канапкі, а ў прытулку займаецца евангелізацыяй 200 маладых людзей. Яшчэ ў трох ці чатырох пачынае ствараць малыя хрысьціянскія супольнасьці. Ягоны пакой, з Бібліяй на бачным месцы, заўжды адчынены, і кожны, хто пажадае, можа зайсьці.

Ён вельмі любіць адарацыйную малітву перад Найсьвятым Сакрамэнтам і гаворыць, што чэрпае з яе сілы, каб ісьці да людзей. Імкнецца стаць сьвятаром. На ягоным твары заўжды ўсьмешка, якая праменіць. Ён ня мае нічога, але ёсьць запоўнены Ісусам.

*(Паводле кнігі "Upojony życiem")*

# Еўрапейскае спатканьне маладых хрысьціянаў

*Калі мы думаем пра Еўропу, мы разумеем, што кожнаму народу неабходна жыць, узаемна дапаўняючы адзін аднаго. Ці ж можна заставацца абыякавым да нараджэньня новай Еўропы — адзінай, мірнай і прымiранай? І замест таго, каб замыкацца ў сабе, Еўропа заўжды будзе адкрываць нейкую частку свайго ўласнага духу ў салідарнасьці з іншымі кантынентамі. Розныя часткі сьвету таксама патрэбны адзін аднаму. Кожная з іх заўважыць, што страціла нейкую фундаментальную раўнавагу, калі яны будуць пакінуты сам на сам.*

*(Ліст з Тэзэ, спецыяльны выпуск, 1997)*

З 28 сьнежня 1996 году па 1 студзеня 1997 году ў Штутгарце (Нямеччына) праходзіла штогадовая, 19-ая па ліку, Еўрапейская сустрэча моладзі. Яна зьяўляецца чарговым этапам "паломніцтва даверу па зямлі", натхняльнікам і арганізатарам якога выступае хрысьціянская супольнасьць Тэзэ (Францыя).

На гэтую сустрэчу здолела прыехаць група хрысьціянскай моладзі з Берасьця і Кобрыня. Нягледзячы на арганізацыйныя і фінансавыя цяжкасьці (вялікі дзякуй фундатарам, якія дапамаглі), наш аўтобус усё ж выправіўся ў падарожжа.

Па дарозе ў Нямеччыну мы зрабілі прыпынак у польскім мястэчку Пневы, што каля Познані, дзе нас гасьцінна сустрэлі сёстры-уршулянкі. А ранкам 28 сьнежня мы былі ўжо ў Штутгарце.

Горад амаль цалкам разьмешчаны ў лагчыне, з усіх бакоў ён акружаны даволі высокімі ўзгоркамі. Штутгарт — буйны прамысловы і фінансавы цэнтр з насельніцтвам каля 550 тысячаў чалавек. Горад амаль ня мае старой гістарычнай забудовы і гэтым нагадвае нашыя гарады. Адной з прычынаў, чаму месцам для правядзеньня чарговай Еўрапейскай сустрэчы моладзі быў выбраны Штутгарт, называлася тое, што сярод іншых нямецкіх гарадоў гэты горад выдзяляецца даволі актыўным рэлігійным жыцьцём. Дарэчы, у рэлігійным плане Штутгарт — горад рознаканфесійны. Прыкладна 40% жыхароў горада зьяўляюцца рыма-каталікамі, а 60% — пратэстанты. Не апошнім фактарам пры выбары месца правядзеньня моладзевага форуму сталася тое, што ў Штутгарце ёсьць адмысловае збудаваньне — Мэссэхол,— дзе адначасова могуць разьмясьціцца тысячы людзей.

У Штутгарт на форум хрысьціянскай моладзі, арганізаваны супольнасьцю Тэзэ, зьехалася больш за 70 тысячаў чалавек з 40 краінаў сьвету. Як заўсёды, вялікую актыўнасьць праявілі палякі — на сустрэчу прыехала каля 19 тысячаў вернікаў. З Беларусі ж у Штутгарт здолелі прыехаць нямногія — усяго 200-300 маладых хрысьціянаў, пераважна рыма-каталікі. Мне ж давялося сустрэцца ў Штутгарце толькі з рыма-каталікамі з Ліды і праваслаўнымі з Менску.

Асноўную масу ўдзельнікаў штутгарцкага спатканьня моладзі гасьцінна сустрэлі ў нямецкіх сем'ях, а астатніх разьмясьцілі па школах горада. Гаспадары, як і належыць немцам, зрабілі тут усё вельмі добра і прадумана, каб без праблем можна было прыняць такую вялікую колькасьць гасьцей. Наша берасьцейска-кобрыньская група была разьмешчана ў сем'ях па 3-4 чалавекі ў невялікім гарадку Эсьленген, што недалёка ад Штутгарта.

У Мэссэхолле, дзе адбываліся нашы малітоўныя сустрэчы, суседзямі нашай невялікай групы з Беларусі былі пераважна палякі, а таксама расейцы. Таму і пераклад ішоў толькі па-польску і па-расейску. У першы ж вечар, 28 сьнежня, у нашым сектары быў брат Ражэ з супольнасьці Тэзэ разам з групай дзяцей. Апроч агульных сустрэч і малітваў адбываліся таксама спатканьні ў малых групах. Асноўнымі тэмамі, што абмяркоўваліся ў групах, былі тыя ж, што і на сустрэчы летась у Вроцлаве: хрысьціянская любоў, прымірэньне.

Сустрэча еўрапейскай хрысьціянскай моладзі ў Штутгарце пакінула незабыўнае ўражаньне, бо тут панаваў дух еднасьці і любові. На такіх сустрэчах няма месца канфесійнай, нацыянальнай і палітычнай варожасьці. Таму такія малітоўныя спатканьні лепей за ўсё спрыяюць зьбліжэньню людзей, народаў і Цэркваў.

**Андрэй Адамчык**
*г.Берасьце*



*70 тысячаў маладых людзей сабраліся ў Штутгарце на 19-ую Еўрапейскую сустрэчу*



# Планы Сьвятога Айца Яна Паўла II на 1997 год

Нягледзячы на праблемы са здароўем, 1996 год для Яна Паўла II выдаўся даволі насычаным і пладатворным. У часе сваіх 6 апостальскіх падарожжаў Рымскі Архірэй наведаў 3 кантыненты, выдаў важны дакумент — апостальскую адгартацыю пра манаскае жыцьцё, абвясьціў новыя правілы выбару папаў, а ў дыялогу з навукоўцамі Ян Павел II выказаў пазітыўную пазіцыю Царквы адносна эвалюцыі.

Глава Каталіцкай Царквы неаднаразова выказваўся за разьвіцьцё экуменічнага дыялогу з іншымі хрысьціянскімі канфесіямі. У Рыме ён меў сустрэчу з англіканскім архібіскупам Кантэрбэрыйскім Дж.Карэем і Каталікосам усіх армянаў Гарыгенам I. Значнай падзеяй мінулага году для Рымскага Архірэя сталі ўрачыстасьці з нагоды 50-годдзя ягонага сьвятарства.

Як сьведчаць дакументы, у 1996 годзе Сьвяты Айцец прыняў у Ватыкане больш за 1,2 мільёны пілігрымаў, у тым ліку звыш паўмільёна вернікаў былі прынятыя ім падчас 41 прыватнай аўдыенцыі і больш за 560 тысячаў — падчас розных цырымоніяў, урачыстых Сьв. Літургій, набажэнстваў і інш.

Пачатак новага 1997 году для Яна Паўла II зноў выдаўся даволі напружаным. 6 студзеня ў базіліцы сьв. Пятра Рымскі Архірэй высьвяціў на біскупаў 12 сьвятароў з 7 краінаў 3 кантынентаў. На сьвята Хрышчэньня Гасподняга паводле штогадовай традыцыі папа зьдзейсьніў абрад хросту 19 нованароджаных у Сікстынскай капэле. А 13 студзеня ён выступіў на аўдыенцыі перад дыпламатамі, што акрэдытаваныя пры Апостальскай Сталіцы.

3 лютага ў яго адбылася сустрэча з прэм'ер-міністрам Ізраілю Бэньямінам Нетаньяху. Дарэчы, гэта была першая сустрэча главы ізраільскага ўраду з Рымскім Архірэем. Вынікам сустрэчы стала запрашэньне адведаць Сьвятую Зямлю. Аднак палестынскае кіраўніцтва лічыць пакуль што гэты візіт непажаданым.

Адбылася сустрэча Яна Паўла II з Каталікосам Кілікійскай Царквы Арамам I, не зважаючы на пратэсты камуністычнага Кітаю, Папа Ян Павел II даў аўдыенцыю віцэ-прэзідэнту Тайваню Лень Чэню, пасьля якой Лень Чэнь афіцыйна запрасіў Рымскага Архірэя наведаць Тайвань.

На 1997 год Ян Павел II запланаваў чатыры апостальскія падарожжы: у Чэхію, Польшчу, Францыю і Бразілію. Першы візіт Сьвятога Айца запланаваны ў Чэшскую Рэспубліку на 25-27 красавіка.

Затым Сьвяты Айцец, якому ў траўні споўніцца 77 гадоў, зьдзейсьніць візіт на сваю радзіму ў Польшчу (31 траўня — 10 чэрвеня). Падчас свайго сёмага візіту ў Польшчу, які будзе 75-м апостальскім падарожжам за межы Італіі, Ян Павел II мае намер адведаць 11 гарадоў гэтай краіны. У Вроцлаве Рымскі Архірэй пабывае на Міжнародным Еўхарыстычным Кангрэсе. Далей ягоны шлях праляжа ў Легніцу і Гожув. У Гнезна, дзе 1000 гадоў таму была заснавана першая ў Польшчы царкоўная правінцыя, Сьвяты Айцец аддасьць пашану праху сьв. Альберта, які загінуў тут мучаніцкай сьмерцю ў 997 годзе. Перад тым, як схіліцца перад абразом "Чорнае Дзевы" — Чанстахоўскай Багамаці, ён адведае вялікі прамысловы цэнтр Познань і г.Каліш, а таксама правядзе некалькі дзён у Татрах у Закапаным, дзе адведае марыйную сьвятыню Людмерж.

У старажытным Кракаве, дзе Ян Павел II займаў архібіскупскую кафедру, ён адправіць сьвяточную Літургію з нагоды 700-гадовага юбілею факультэту тэалогіі Ягелонскага ўніверсітэту (менавіта на гэтым факультэце Сьвяты Айцец атрымаў тэалагічную адукацыю). Таксама верагодна, што падчас наведваньня Кракава адбудзецца беатыфікацыя каралевы Ядзьвігі. А ў горадзе Дукля Рымскі Архірэй кананізуе францішканскага манаха — блаславёнага Яна з Дуклі.

Арганізатарамі візіту Сьвятога Айца ў Польшчу ўлічаны таксама і два асабістыя моманты: Ян Павел II пабывае на магіле сваіх бацькоў і адправіць богаслужэньне ў крыпце сабору, дзе 50 гадоў таму ён адслужыў сваю першую Літургію.

На 23-24 жніўня прымеркаваны візіт Яна Паўла II у Францыю, дзе ён возьме ўдзел у Сусьветным Дні Моладзі. Як стала вядома, падчас візіту Сьвятога Айца ў Францыю ў Парыжы адбудзецца беатыфікацыя заснавальніка каталіцкай супольнасьці сьв. Вікенція ад Паула — Антонія Фрэдэрыка Азанама.

У планах Яна Паўла II падарожжа ў Бразілію на II Сусьветную сустрэчу сем'яў, якая адбудзецца ў Рыё-дэ-Жанэйра. Тэма гэтай сустрэчы: "Сям'я — дар і абавязак, надзея чалавецтва". Гэты візіт запланаваны на 4-5 кастрычніка. А вось візіт на Кубу вырашана адкласьці на некалькі месяцаў і не сумяшчаць яго з візітам у Бразілію, бо гэта было б занадта цяжка для 76-гадовага Яна Паўла II. Сваё першае падарожжа на "Востраў свабоды" Рымскі Архірэй зьдзейсьніць у студзені 1998 году. Што да ідэі ажыцьцявіць апостальскі візіт на Кубу ўвесну 1997 году — перашкодай гэтаму сталася пазіцыя кубінскага ўраду, які заявіў пра немагчымасьць прыняць у гэты час Главу Каталіцкай Царквы.

Паводле словаў біскупа Пабло Пуэнтэ, апостальскага нунцыя ў Бейруце, разглядаецца магчымасьць візіту Яна Паўла II у Ліван. Паездка ў гэты выбухованебясьпечны рэгіён адкладаецца з 1994 году, і калі адбудзецца, дык будзе насіць выключна рэлігійны характар.

Сьвяты Айцец таксама не пакідае намеру наведаць Сараева. Нядаўна ўсе тры кіраўнікі Босьніі і Герцагавіны — мусульманін Алія Ізетбегавіч, серб Мамчыла Краішнік і харват Крэсімір Зубак — надаслалі Яну Паўлу II запрашэньне наведаць Сараева. Таму, візіт, які адкладаўся з-за пратэстаў сербскага боку, пачынаючы з 1993 году, нарэшце можа быць зьдзейсьнены.

У 1997 годзе чакаюцца, безумоўна, і новыя кардынальскія намінацыі. У гэтым годзе Папа плануе апублікаваць таксама доўгачаканы дакумент на тэму антысемітызму.

**Вікенцій Верамяюк**

*г.Берасьце*

# Усходняя каталіцкая Місія на Палесьсі

Нядаўна Беларусь наведаў а. Ян Павел Мухарскі з францішканскага закону братоў меншых капуцынаў, які ў 1935-1939 гг. працаваў у манастыры ў палескім мястэчку Любешаў, што на беларуска-ўкраінскім памежжы. Ён асабіста быў заангажаваны ў экуменічны рух на тэрыторыі сумежных раёнаў сучаснай Беларусі, Украіны і Польшчы. Праз 50 гадоў а. Ян Павел Мухарскі змог зноў вярнуцца ў Любешаў. Сёньня ён зьяўляецца адзіным з тых, хто вёў місіянерскую дзейнасьць па пашырэньні ўсходняга каталіцтва на Палесьсі ў міжваенны час. У гэты перыяд Візантыйска-славянская Місія мела 43 парафіі, 7 мужчынскіх манастыроў, 7 жаночых пляцовак і 25 тысячаў вернікаў.

У 1996 годзе, на 400-ыя ўгодкі Берасьцейскай Уніі, гэты сьвятар, які ўсё сваё жыцьцё прысьвяціў справе хрысьціянскай еднасьці, выдаў працу "Пра еднасьць хрысьціянаў". У ёй аўтар даў кароткую, але вельмі ясную інфармацыю пра гісторыю і прычыны болеснага падзелу Ўсходняй і Заходняй Царквы, а таксама пра намаганьні, якія рабіліся для пераадоленьня гэтага падзелу.

Нам жа хочацца пазнаёміць чытачоў з дзейнасьцю братоў меншых капуцынаў, якія працавалі ва ўсходнім абрадзе ў Любешаве.

Дзякуючы пэўным гістарычным абставінам, у першай палове XX стагоддзя Каталіцкая Царква ўсходняга абраду перажывала значны ўздым. Гэтаму спрыяла і зацікаўленасьць папы Пія XI справаю зьяднаньня Цэркваў. Ужо з 1913 году ва ўсходнім абрадзе працавалі рэдэмптарысты. Пазьней, акрамя іх, Сьвяты Айцец далучыў езуітаў, бенедыкцінцаў, аблатаў, мар'янаў і капуцынаў. Апошнія працавалі ў палескім мястэчку Любешаў на беларуска-ўкраінскім памежжы.

У 1756 годзе Ян Антоній Чарнецкі і ягоная жонка Феліцысіма заклалі ў Любешаве манастыр братоў меншых капуцынаў. Падчас I Сусьветнай вайны манастыр быў моцна зьнішчаны. 6 лютага 1929 году слуга Божы біскуп Пінскі Зігмунт Лазінскі перадаў манастыр у Любешаве закону братоў меншых капуцынаў. У хуткім часе манастыр быў адбудаваны.

30 красавіка 1932 года Ўсходняя Пантыфікальная камісія перадала адбудаваны манастыр усходняй галіне капуцынаў візантыйска-славянскага абраду. Протаігуменам манастыра стаў а. Кірыл Фэрмонт з галандзкай правінцыі братоў меншых капуцынаў. У 1939 годзе ў Любешаве працавалі 5 сьвятароў, 6 братоў і 2 навіцыі. Тут былі таксама сірацінец, якім апекаваліся сёстры сэрцанкі і малая духоўная семінарыя ўсходняга абраду.

1939 год і вайна амаль цалкам зьнішчылі плён працы Візантыйска-славянскай місіі. Споўніліся словы, якія біскуп Мішэль Д'Эрбіні сказаў айцу Кірылу Фэрмонту: "Вашае апостальства яшчэ запатрабуе калісьці ад вас мучаніцтва".

II Сусьветная вайна прынесла новыя ахвяры дзеля еднасьці. У 1943 годзе загінулі айцец Касьян Язэп Чаховіч, якога ў чэрвені ўтапілі ў рацэ, і брат Сільвестр Стэфан Гладзіо — у ліпені ён быў засечаны сякераю ў падвалах манастыра.

9 лістапада 1943 году былі спалены жыўцом разам з іншымі жыхарамі Любешава сёстры: Ядзьвіга Алаіза Гано і Андрэя Марыя Асакоўская, а таксама піяр брат Пётр Майсіянак.

28 верасьня 1990 году а.Ян Павел Мухарскі больш чым праз 50 гадоў прыехаў у Любешаў. Ён застаў манастыр заняты міліцыяй, судом і пракуратурай, а ў храме была міліцэйская спартовая зала. 21 красавіка 1992 году ўлады вярнулі храм капуцынам, а а. Ян Павел Мухарскі стаў адміністратарам мясцовай парафіі сьв. Кірыла і Мятода. 5 лістапада 1993 году частка манастырскіх памяшканьняў, у якіх месьцілася аўташкола, была вернута Царкве. Цяпер тут плануецца разьмясьціць Інфармацыйны Цэнтр еднасьці хрысьціянаў.

Сёньня, у духу рашэньняў II Ватыканскага Сабору і Дэкрэту "Пра Ўсходнія Цэрквы", "законам і супольнасьцям лацінскага абраду, што працуюць ва ўсходніх краінах і сярод усходніх вернікаў, настойліва раіцца, дзеля большай дзейнасьці іхняга апостальства, ствараць, наколькі магчыма, дамы ці нават правінцыі ўсходняга абраду".

**Андрэй Крот**
**Ігар Бараноўскі**
*г.Берасьце*



*Манастыр Братоў Меньшых Капуцынаў усходняга абраду ў Любешаве*



## Фільмы да 400-годдзя Берасьцейскай Уніі

З 8 студзеня 1997 году на першым канале Ўкраінскага тэлебачаньня распачаўся тэматычны паказ фільмаў вытворчасьці студыі "Тэле-Еўропа" і ТБ "Прасьвіта", прысьвечаных юбілею Берасьцейскай царкоўнай Уніі. Як паведамляе прэсбюро Ўкраінскай Грэка-Каталіцкай Царквы, фільмы з гэтага серыялу будуць трансьлявацца раз на тыдзень у найлепшы вячэрні час. Сярод запланаваных для паказу на бліжэйшы час стужак будуць фільмы "Як будаваць родную хату" і "Царскі вязень" пра мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага, "Апостал еднасьці і веры" пра дзейнасьць сьвятамучаніка Язафата Кунцэвіча, "Нашчадак" пра патрыярха Ёсыфа Сьліпога, "Гара Ясна" пра гісторыю спавутага львоўскага Сабору сьв. Юра ды іншыя. Варта заўважыць, адзін з фільмаў, прысьвечаных Берасьцейскай Уніі, прэс-група УГКЦ здымала ў Беларусі, на зямлі, дзе была падпісана Унія.

**(АРІ)**

# Баранавічы: вяртаньне да веры продкаў

1 лютага 1997 году ў Баранавічах адбылася навуковая канферэнцыя на тэму: "Да 400-х угодкаў Берасьцейскай царкоўнай уніі". У канферэнцыі прынялі ўдзел гісторыкі, навукоўцы, вернікі, людзі, якіх цікавіць беларуская даўніна, культура, тыя, хто яшчэ ня вызначыўся ў сваіх рэлігійных схільнасьцях.

"Ад ідэі да ажыцьцяўленьня Берасьцейскай царкоўнай уніі 1596 года" — так называўся першы даклад, які зрабіў гісторык сп.В.Сырыца. Ён расказаў пра перадумовы, гэта значыць і пра прычыны, якія прывялі да падпісаньня Берасьцейскай уніі, пра сутнасьць аб'яднаньня Праваслаўнай і Каталіцкай Цэркваў і пра скасаваньне гэтай еднасьці. На час захопу Беларусі Расейскай імперыяй каля 80% нашага насельніцтва былі ўніятамі (грэка-католікамі). Царскім загадам пасьля правядзеньня Полацкага сабору ў 1839 годзе ўніяцтва было забаронена. Грэка-каталіцкія манастыры, цэрквы і ўся іншая маёмасьць аўтаматычна перайшлі



ва ўласнасьць Расейскай Праваслаўнай Царквы, якая ва ўсе часы падпарадкоўвалася царам. Храмы загадам новай духоўнай улады перабудоўваліся, зьнішчаліся. Там, дзе вернікі супраціўляліся, іх зьнішчалі фізічна. Пра тое, як тапілі, палілі, ссылалі і стралялі асабліва ўпартых уніятаў, што не хацелі зьмірыцца з расейскім панаваньнем у Царкве, расказваюць многія дзясяткі кніг, напісаныя як нашымі землякамі, так і чужаземцамі. Захаваліся сьведчаньні як непасрэдных удзельнікаў зьверстваў, так і саміх ахвяраў, якія выпадкова здолелі пазьбегнуць сьмерці. У савецкі час такія кнігі былі пад сямю замкамі, але, на жаль і сёньня звычайнаму чытачу ня проста з імі пазнаёміцца.

У 1946 годзе Грэка-Каталіцкая Царква, адроджаная ў Заходняй Беларусі ў міжваены час, зноў была забароненая, на гэты раз савецкай уладай. На Ўкраіне Царква перайшла ў падпольле і так праіснавала да развалу СССР. Сёньня яна адраджаецца на нашых землях, а на Ўкраіне Грэка-Каталіцкая Царква ўжо адна з дамінуючых канфесій.

Архітэктар сп-ня І.Лаўроўская пазнаёміла ўдзельнікаў канферэнцыі з архітэктурай культавых уніяцкіх збудаваньняў. Але галоўным чынам ішла мова пра царкву сьв. Мікалая ў Берасьці, якая славутая тым, што менавіта ў ёй была падпісана Берасьцейская Унія. На тэрыторыі сёньняшняй Берасьцейскай фартэцыі (мемарыяльнага комплексу "Берасьцейская крэпасьць-герой") раней быў стары горад Берасьце, у якім было 15 культавых збудаваньняў 5 рэлігійных канфесіяў. Цікавую можна зрабіць выснову: пры тым, што колькасна дамінавала Грэка-Каталіцкая Царква, было месца і для праваслаўных храмаў, і для рыма-каталіцкіх касьцёлаў, і для сінагог. Тут можна сказаць адназначна: продкі нашы не крычалі на ўвесь сьвет пра дружбу народаў, але жылі па запаведзях Божых — шанавалі бліжняга, як самога сябе. Гэтым тлумачыцца і іх верацярпімасьць.

Праз 20 гадоў пасьля далучэньня Беларусі да Расеі на месцы старога горада не было ўжо ніводнага культавага збудаваньня — яны чамусьці гарэлі адно за другім. Гарэлі і людзкія дамы. Сяліцца на старым месцы не дазвалялася, а новае Берасьце будавалася ўжо на пэўнай адлегласьці. Захопніцкая палітыка і дзяржаўная рэлігія Расеі аказаліся цесна зьвязаныя. Зразумела, што ў новым Берасьці пасьля забароны ўніяцтва ў 1839 годзе ніводнага грэка-каталіцкага храма не магло быць.

Пасьля дакладаў была адслужана Сьвятая Літургія, якую па-беларуску адправіў а. Ігар Кандрацьеў. На ўсю Берасьцейскую вобласьць, дарэчы, ён пакуль адзіны грэка-каталіцкі сьвятар. У адрозьненьне ад службы ў праваслаўнай царкве, вернікі ў часе набажэнства ня толькі сьпяваюць "Веру" і "Ойча наш", але і ўсю Літургію, моляцца ўсе разам. Гэта стварае спрыяльную для малітвы атмасферу. Малітва, урачысты настрой набажэнства дае магчымасьць заглыбіцца ў сабе, пераасэнсаваць свае погляды, паводзіны, добрае і дрэннае ў сабе, зразумець прызначэньне Богам дадзенай чалавечай існасьці.

Закончылася ўсё выступленьнем мастацкага харавога калектыву. Канферэнцыя прайшла ўрачыста, з вялікім зацікаўленьнем з боку ўсіх удзельнікаў. Добразычлівыя, заспакоеныя, з надзеяй на лепшы лёс сваіх сем'яў і ўсёй нашай шматпакутнай Беларусі разыходзіліся людзі. Ішлі да дому з Богам у сэрцы, перакананыя, што іхняя Грэка-Каталіцкая Царква, іх малітвы на роднай мове — гэта прыступак адраджэньня, гэта вяртаньне да веры, да продкаў.

Сёньня ў Баранавічах ідзе станаўленьне грэка-каталіцкай (уніяцкай) парафіі, якая мае патронамі славянскіх асьветнікаў сьвятых Кірылу і Мятода. Хто гэтыя людзі, што стварылі парафію? У іх розны ўзрост, розныя прафесіі, розны сямейны стан. З-за адсутнасьці грэка-каталіцкіх сьвятароў камусьці з іх давялося прыняць хрост у праваслаўнай царкве, камусьці ў касьцёле, а нехта быў зусім яшчэ няхрышчаны. Аб'ядноўвае іх жаданьне вярнуцца да веры сваіх продкаў і гаварыць з Богам на роднай, для некаторых напалову забытай беларускай мове.

Так чалавек створаны Богам, што яму, апрача ежы фізічнай, патрэбная і "ежа" духоўная. І хоць хрысьціянская рэлігія ня ставіць ніякіх нацыянальных перагародак між людзьмі, Бог даў кожнаму народу сваю мову, гэтым даводзячы людзям шматграннасьць, велічнасьць, хараство жыцьця духоўнага, і беларускія грэка-католікі, як і належыць хрысьціянам, лічаць для сябе шчасьцем маліцца на Богам дадзенай ім роднай беларускай мове.

**Лідзія Антановіч**
*г.Баранавічы*



**Творчасьць нашых чытачоў**

## Сьветлай памяці Ўладзіміра Базана

Першыя дні вясны
сумнаю сталі датаю.
Хутка над нашымі хатамі
птушкі ўспомняць сьцежкі.
...Волат бароніць Айчыну.
Смуткуе па сыне Шлях...
Шлях, што сьлязою пралёг
ля вечных Старых Дарог.
*3.03.97*

***

Хата ў чатыры сьцяны.
Чатыры кірункі сьвету.
З радзінаў да плачаў.
З вясельля да новай хаты
ў чатыры сьцяны...
У мэтакірунку — Вечнасьць.

***

Белы гатычны касьцёл
З небам гаворку мае.
Вежа маю душу
На самым краёчку трымае.
Я горад аберагаю...

**Сьвятлана Варонік**
*г.Берасьце*

## Вечнасьць

Неба аднойчы асірацела:
Зьніклі і сонца, і месяц, і зоркі.
Толькі крупінка-зямля ацалела
Кропляю бруду ў Сусьвеце...
І не было больш нічога-нічога,
Толькі бясконца адна пустата.
Але над усім заставалася Слова,
І Слова было Бог.

**Вінцэсь Вашэка**
*г.Берасьце*

***

Маўчаньня час — глыбокага, як вечар,
час роздуму — журботнага, як восень,
пра шлях нядоўгі ў веку чалавечым,
які прайсьці лёс болей не запросіць.

Час паяднаньня з несамотным Богам
і цішай траў, што з мудрасьцю заручаць.
З жыцьцём — жыцьцё, з эпохаю — эпоха:
складаецца з імгненьняў неўміручасьць.

Заходзіць сонца, і на даляглядзе
злучаецца зыход з пачаткам шляху.
Так проста адкрываецца суладдзе,
калі сарваць з вачэй павязку страху.

**Алесь Каско**
*г.Жабінка*

## Памяці Ўладзіміра Базана

*Тэлеграма*
*Візітатара*
*ad nutum Sanctae Sedis*
*для грэка-католікаў*
*Беларусі*

*Рым, 4 сакавіка 1997 г.*



Пасьля кароткіх, але цяжкіх пакутаў, адыйшоў ад нас Уладзімір Базан. Гэтае расстаньне папаўняе болем ягоных блізкіх і сяброў. Разам з імі смуткуе і берасьцейская парафія Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы.

Брат Уладзімір быў членам гэтае парафіі і шматразова аказваў сваю зычлівую, цэнную і кампетэнтную дапамогу, асабліва на полі беларускамоўных хрысьціянскіх выданьняў. У апошніх месяцах ягоная дапамога ў выдаўніцтве газеты “Царква” і “Календара на 1997 год” была неацанімая.

Смутак блізкіх Брата Ўладзіміра і смутак берасьцейскае грэка-каталіцкае парафіі — гэта смутак усёй нашай Царквы. Як хрысьціяне, мы ведаем, што Брат Уладзімір не адыйшоў у нікуды, ён перайшоў у дом любячага Айца.

Любоў да свайго народу, мовы і культуры прывяла Ўладзіміра да Царквы, а яна, як добрая Маці, прывяла яго да Ісуса Хрыста.

Тая ж самая Царква суправаджае яго сёньня сваімі малітвамі. Разьвітваючыся сёньня з Уладзімірам, дзякуем Богу за ягонае жыцьцё, поўнае патрыятызму і служэньня людзям. Богу — Айцу міласэрнаму, даручаем ягоную душу, ахвяруючы за яго Сьвятую Літургію.

У нашую малітву ўключаем усіх, каго сьмерць Уладзіміра папоўніла болем і сумам. Няхай Госпад будзе іхнім пацяшэньнем і ўмацаваньнем.

Вечная яму памяць!

архімандрыт **Сяргей Гаек**
апостальскі візітатар
для грэка-католікаў Беларусі

# 10 запаведзяў хрысьціянскага кіраваньня аўтамабілем

Напрыканцы мінулага году Міжнародная асацыяцыя дарожнай бясьпекі, штаб-кватэра якой месьціцца ў Лондане, падрыхтавала і выпусьціла ў сьвет для сваіх сябраў так званыя "10 запаведзяў вадзіцеля аўтамабіля". На думку ініцыятараў гэтага выданьня, кіраваньне аўтамабілем не павінна быць адно сьляпым перасоўваньнем з аднаго пункту да іншага; мэта, якую яны перасьледуюць — увесьці ў жыцьцё хрысьціянскія правілы кіраваньня аўтатранспартам. Цікава, што за час, які мінуў пасьля выхаду ў сьвет гэтых запаведзяў, колькасьць сябраў асацыяцыі вырасла на 1000 асобаў.

Гэтыя 10 запаведзяў хрысьціянскага кіраваньня аўтамабілем:

1) распачынай падарожжа малітваю;

2) памятай: калі ты выехаў пазьней, ты прыбудзеш таксама пазьней;

3) алкаголь прызначаны для радыятара, але не для кіроўцы;

4) калі іншы кіроўца прапусьціць цябе, дай яму знак удзячнасьці;

5) калі выпадкова ты загарадзіў праезд іншай машыне, дай яе кіроўцы знак прабачэньня;

6) саступай кіроўцам, якія сьпяшаюцца ці агрэсіўныя;

7) кіруй машынай у такі спосаб, каб выпадковае зьяўленьне паліцэйскай машыны прынесла табе задавальненьне;

8) трымайся падалей ад "памятых" машынаў;

9) ніколі не падвышай хуткасьці, наадварот — едзь павольней, у выпадку, калі гэта неабходна, калі іншы кіроўца пажадае заняць паласу, якой едзеш ты;

10) заканчвай кожнае падарожжа малітвай падзякі.

Хрысьціянская асацыяцыя дарожнай бясьпекі зьяўляецца часткай міжнароднага руху, які актыўна падтрымліваецца кіроўцамі многіх краінаў сьвету, асабліва ангельскамоўных: ЗША, Канады, Аўстраліі, Новай Зеландыі. У асацыяцыю ўваходзіць больш за 16 тысяч асобаў, з іх 4 тысячы — грамадзяне Вялікай Брытаніі, 8 тысячаў пражывае ў 10 афрыканскіх краінах, 4 тысячы — у іншых краінах сьвету.

Свае матэрыялы пра бясьпеку дарожнага руху гэтая асацыяцыя пашырае паміж парафіямі (сярод іх: кніжкі малітваў і царкоўных гімнаў). Сябры асацыяцыі таксама арганізуюць дыскусіі на адпаведную тэматыку ў школах, ладзяць курсы бясьпекі руху для дзяцей.

**(АРІ)**

# У час Вялікага Посту



*Працяг, пачатак на стар.3*

замест мяса, якое багатае на так неабходныя гэтым людзям бялкі, можна ўжываць бабовыя (гарох, фасоля, спаржа, соя), рыбу і іншыя прадукты мора, грыбы, арэхі. Пастарайцеся замяніць тугаплаўкія жывёльныя тлушчы (масла, сала) на алеі. Калі да гэтага сьпісу здаровых прадуктаў дадаць цыбулю, часнык і вітаміны ў выглядзе садавіны і сокаў, а цукар замяніць на мёд — ваша цела зусім не пацерпіць, а толькі зьлёгку пачысьціцца. Дарэчы, штотыднёвае 24-гадзіннае галаданьне пазбавіць вас ад наступстваў солевага лішку.

Я б параіла вам імкнуцца есьці толькі тады, калі адчуваеце голад, а не па звычцы ці за кампанію. Пажадана забыць пра любімыя стравы, нават посныя. Гэта значыць, што вы добраахвотна павінны адмовіцца атрымліваць задавальненьне ад смакаваньня ежы.

Наступнай прыступкай для вас павінна стаць абмежаваньне колькасьці прадуктаў у сутачным рацыёне, каб усё ж такі прымусіць цела "закрыць рот" і перастаць заяўляць пра сябе, як пра галоўнае. Бунтавацца яно будзе 2-3 дні. Не прыслухоўвайцеся і не патакайце яму задавальненьнем яго-ных жаданьняў. Яно — гэта ня вы. Памятайце пра гэта. Паказчыкам таго, што цялесны пост арганізаваны правільна, зьяўляецца спакойны і радасны настрой, а таксама супакаеньне ў душы. Прытрымлівайцеся гэтых рэкамендацыяў, і вы адчуеце незвычайную лёгкасьць у думках і бадзёрасьць у целе.

Вядома, калі вы адчуеце раздражненьне ад такога самаабмежаваньня, лепей паешце, але ня злуйцеся. Не бяда, паспрабуеце ў час наступнага посту. Паскараць працэс вызваленьня душы ад улады цела няможна, пакуль не прыйшло асэнсаваньне неабходнасьці посту і жаданьне пасьціцца разам з усёй Царквой.

**Вольга Гграськова**,
*урач-тэрапеўт*
*г.Берасьце*

## Шаноўныя падпісчыкі газеты "Царква"

На вялікі жаль, па недагляды рэдакцыі ў вас не было магчымасьці зрабіць падпіску на нашу газету на І паўгоддзе 1997 году.

Мы, аднак, паспрабуем выправіць гэтую недарэчнасьць і зробім усё, каб вы маглі падпісацца на "**Царкву**", пачынаючы з ІІ паўгоддзя 1997 году.

Каб не згубіць сваіх падпісчыкаў, якімі рэдакцыя "**Царквы**" вельмі даражыць, мы будзем дасылаць газету ва ўсе грэка-каталіцкія парафіі Беларусі. Калі ж у вас няма такой магчымасьці атрымліваць "**Царкву**", прапануем вам, шаноўныя чытачы, даслаць свае адрасы нам у рэдакцыю. Мы пастараемся абавязкова даслаць вам нашу газету бясплатна.

Будзем таксама вельмі ўдзячныя любым вашым заўвагам, прапановам і меркаваньням адносна зьместу газеты "**Царква**".

З нецярпеньнем чакаем вашых допісаў!

**Царква**
№1(12), 1997

**Адрас рэдакцыі:**
Беларусь, 224014, г.Берасьце, вул.Дворнікава, 62/1-1.
Тэл.: (0162) 264713.

**Нумар падрыхтаваны:** Берасьцейскай грэка-каталіцкай парафіяй сьвятых братоў апосталаў Пятра і Андрэя.
**Рэдактар:** дыякан Андрэй Абламейка.
**Царкоўны асістэнт:** протапрасьвітар Ян Матусевіч.
**Падпісана ў друк:** 25 сакавіка 1997 г., а 23-00.
**Паліграфічныя работы:** "Арбор", Менск, вул.Мележа, 3.
***Газета выдаецца на ахвяраваньні вернікаў. Дзякуем за ахвяру!***
Аб'ём — 2,0 ул.-выд.аркушы. Наклад 499. Замова №